# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 11 (172), 15 САКАВІКА 1995 ГОДА. КОШТ 200 РУБЛЁЎ




## СУВЕРЭНІТЭТ

СЁЛЕТА мы адзначаем першую гадавіну прыняцця Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — падмурка ўсёй палітычнай сістэмы і гаранта незалежнасці нашай краіны. На падставе яе за гэты год быў абраны "ўсенародны" прэзідэнт Рэспублікі, адбылася "вертыкалізацыя" мясцовых органаў улады, сфармаваны амаль што новы Кабінет міністраў. Тым не менш рэфармаванне палітычнай сістэмы яшчэ не завершылася — магчыма, яно толькі пачалося і ўсё будзе залежаць ад выніку выбараў новага складу Вярхоўнага Савета. Выбары пакажуць, ці сапраўды беларусы — самая апалітычная і люмпенізаваная з усіх постсавецкіх нацый.

Гэта не першая беларуская Канстытуцыя і, магчыма, не апошняя. Сапраўдны дэмакратычны дзяржаўны лад у нас толькі яшчэ пачынае фармавацца, і невядома, якіх зменаў у сістэме інстытутаў улады запатрабуе жыццё ўжо ў бліжэйшы час. Краіны, якія сталіся гістарычнай радзімай сучаснай дэмакратыі, таксама зведалі ваганні паміж рознымі сістэмамі кіравання дзяржавай. Зрэшты Англія і Злучаныя Штаты здолелі набыць добрую Канстытуцыю з першай спробы. Англічане "адкрылі" парламенцкі рэжым і захоўваюць яго амаль нязменным ужо тры стагоддзі. Праз стагоддзе амерыканцы вынайшлі сістэму прэзідэнцтва, якая сёння мае дзве сотні гадоў. Французы з гэтым у свой час не пашанцавала. Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна, абвешчаная ў 1789 г., дажыла да нашых дзён. Першая Французская Канстытуцыя (1791) аказалася, аднак, няўдалай. Яна не стварыла ўмоваў для суіснавання манарха і заканадаўчага Сходу. Канфлікт прывёў да забойства караля. Краіна зведала затым працяглы перыяд нестабільнасці— 15 розных рэжымаў за 86 гадоў. Іспыты на моц паміж першай асобай дзяржавы і кіраўніком урада сталіся агульным месцам у гісторыі Францыі. Яшчэ і сёння французская палітычная сістэма, не знайшоўшы ўстойлівай раўнавагі, вагаецца паміж парламенцкім і прэзідэнцкім рэжымам.

Палітычную сістэму ў Беларусі, створаную на падставе Канстытуцыі 1994 г., можна пакуль азначыць як няўстойлівае балансаванне ўлады паміж прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам. Паводле Канстытуцыі, прэзідэнт не мае права датэрміновага роспуску парламента і прызначэння новых выбараў, не можа прызначыць без згоды Вярхоўнага Савета прэм'ер-міністра і кіраўнікоў "сілавых" міністэрстваў. Са свайго боку, парламент не можа аб'явіць імпічмент прэзідэнту, але можа папросту скасаваць гэтую пасаду дзвюма трацінамі галасоў (канстытуцыйная большасць). Зрэшты, вопыт суседзяў па былым СССР вучыць, што барацьба за ўладу паміж прэзідэнтам і парламентам, амаль непазбежная ў час складанейшых пераўтварэнняў, можа набыць і неканстытуцыйныя формы, аб чым сведчаць звяржэнне прэзідэнтаў Грузіі ды Азербайджана ці, наадварот, разгон парламента ў Расіі ды Казахстане. Але будзем спадзявацца, што ў нашай, што ні кажы, больш еўрапейскай дзяржаве гэтага не адбудзецца.

Нават у межах адной і той жа канстытуцыі сістэма палітычнай улады можа зведаць вельмі значную трансфармацыю.

Калі ў Францыі паўпрэзідэнцкі рэжым развіваўся ў напрамку прэзідэнцкага рэжыму, дык у іншых краінах адбываўся адваротны працэс. Як толькі пачынаецца несупадзенне паміж большасцямі галасоў, пададзеных на прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах, як толькі паўстае пагроза крызісу інстытутаў улады, палітычная барацьба імкнецца падштурхнуць паўпрэзідэнцкі рэжым у бок парламентарызму.

(Заканчэнне на стар. 2)



КАНСТЫТУЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



## АД СТАТУТА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ДА КАНСТЫТУЦЫІ РЕСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# СУВЕРЭНІТЭТ: АД СТАТУТА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ДА КАНСТЫТУЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

У Фінляндыі інстытут прэзідэнцтва, створаны ў 1919 годзе, замяніў сабой канстытуцыйную манархію. Гэтую мадэль высока ацанілі ў суседніх краінах. Урадавая нестабільнасць, звязаная з прапарцыянальным парадкам выбараў, у пачатку праўлення Урха Кеканена стварала ўмовы для моцнай прэзідэнцкай улады. Аднак наступны прэзідэнт Маўна Койвіста быў прымушаны разглядаць сябе адно як арбітра, які не ўмешваецца ў дзеянні ўрада. Кансалідацыя палітычных партый, а таксама традыцыя парламенцкіх дэбатаў замацавала ў апошнія дзесяць год парламентарныя рысы фінскага рэжыму, нават калі прэзідэнта рэспублікі цяпер выбіраюць усеагульным прамым галасаваннем.

У Партугаліі, пасля некалькіх год няпэўнасці, што наступнічалі Рэвалюцыі гваздзікоў, прэзідэнцкая пасада не здолела зацвердзіць сваю перавагу сярод інстытутаў улады. Генерал Эанеш, пераабраны ў 1980 годзе, маючы справу з раз'яднаным Сходам, спадзяваўся стацца моцнай асобай. Але калі прэзідэнт умяшаўся ў барацьбу паміж заканадаўцамі, маючы намер спарадзіць партыю ўрада, ён сутыкнуўся з самой логікай функцыянавання інстытутаў улады. Калі парламенцкая большасць можа перадаць дастатковую для праўлення ўладу прэзідэнту рэспублікі як кіраўніку сваёй партыі, дык у адваротным кірунку ўлада не перадаецца. Прэзідэнт рэспублікі, за выключэннем галісцкага вопыту ў Францыі, які ёсць толькі ілюзіяй, не здольны стварыць партыю, якая б перамагла на выбарах у парламент. Асобная партыя або кааліцыя, якая мае большасць месцаў у парламенце, заўсёды сама пачынае дыктаваць сваю волю. У 1985 годзе, калі партугальская Сацыялістычная партыя была разгромлена на выбарах, у той час як яе гістарычны лідэр Марыа Саарэш быў выбраны прэзідэнтам рэспублікі, будучыня рэжыму была прадвырашана. Перагляд Канстытуцыі, зроблены ў 1989 годзе, мог толькі зацвердзіць такую эвалюцыю. У 1990 годзе правая большасць парламента дазволіла Марыа Саарэшу прадстаўляць толькі сябе самога на прэзідэнцкіх выбарах, не пакінуўшы ніякіх сумненняў у парламенцкім характары партугальскага рэжыму.

У Аўстрыі права выбіраць кандытатуру прэм'ер-міністра належыць прэзідэнту рэспублікі, якога выбіраюць усеагульным галасаваннем. Амаль што двухпартыйная сістэма, атрыманая ў спадчыну ад гісторыі, так-сяк захавалася, нягледзячы на прапарцыянальны парадак выбараў, і прэзідэнт рэспублікі рэгулярна прызначае канцлерам лідэра парламенцкай фракцыі, якая перамагла на выбарах. Парламенцкая практыка ўзмацнілася за час працяглага праўлення канцлера Крайскага. Абранне ў 1992 годзе прэзідэнтам рэспублікі Томаса Клешціля замест кандыдата партыі большасці, які лічыўся фаварытам, зацвердзіла дыстанцыю, якую аўстрыйцы жадаюць бачыць паміж надпартыйным прэзідэнтам рэспублікі і выканаўчай уладай, якая належыць канцлеру. Грамадзяне заўсёды, калі выбар пакідаюць за імі, аддаюць перавагу парламентарызму. Аўстрыйскага вопыту магло б хапіць для доказу таго, што абранне прэзідэнта рэспублікі ўсеагульным галасаваннем не ёсць несумяшчальным з парламенцкім рэжымам.

Турэцкі вопыт развіваецца ў гэткім жа накірунку, калі прэм'ер-міністр Тургут Азал у 1989 годзе быў выбраны прэзідэнтам рэспублікі, адхіленне рэжыму ў бок прэзідэнцыяналізму на французскі манер было яшчэ магчымае. Але паражэнне ягоных прыхільнікаў на выбарах у парламент у 1991 годзе не пакінула гэтай практыцы часу, каб стацца трывалай. Генерал Эўрэн праз два гады пасля дзяржаўнага перавароту у 1980 годзе ўсталяваў у Турцыі парламенцкі рэжым, для аховы якога ён спрытна скарыстаў ваенных, якія у падсвядомасці народа атаясамляюцца з гарантыяй стабільнасці і парадку ў грамадстве. Затым ён зняў генеральскі мундзір і дамогся свайго абрання на пасаду прэзідэнта рэспублікі, пакінуўшы выканаўчую ўладу прэм'ер-міністру, які паходзіў з парламенцкай большасці. Усталяванне новага рэжыму дазволіла здзейсніць пераход да дэмакратыі, забяспечыла палітычную стабільнасць, паспрыяла развіццю эканомікі і ператварыла краіну у рэгіянальную звышдзяржаву.

У розных краінах паўпрэзідэнцкі рэжым эвалюцыянуе аднолькавым чынам. З таго моманту, калі ўрад можа абаперціся на ўплывовыя ўмераныя партыі, здольныя сфармаваць парламенцкую большасць, адпадае неабходнасць надаваць важкія паўнамоцтвы прэзідэнту рэспублікі. У іншым выпадку сталіся б непазбежнымі канфлікты на вяршыні дзяржаўнай улады. Эфектыўнасць працы ўрада гарантуецца наяўнасцю ў парламенце згуртаванай большасці, якой можна не сцерагчыся іншых фракцый народных абраннікаў. Памылковым было б меркаваць, што рэжым з моцнай выканаўчай уладай, якую ўзначальвае прэзідэнт рэспублікі або прэм'ер-міністр, можна атрымаць толькі праз усенародныя выбары яе кіраўніка. Прыклад Злучаных Штатаў застаецца шчаслівым выключэннем, якое тлумачыцца федэратыўным ладам краіны, двухпартыйнай сістэмай, абмежаванасцю паўнамоцтваў прэзідэнта і рассеянасцю па грамадстве вытокаў улады.

Моцнасць выканаўчай улады ў Францыі таксама паходзіць не з парадку абрання прэзідэнта рэспублікі і не з ягоных канстытуцыйных паўнамоцтваў, а з таго факта, што ён з'яўляецца вярхоўным кіраўніком парламенцкай большасці. Калі на прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах перамагае адна і тая ж партыя, французскі рэжым на самой справе функцыянуе пад выглядам прэзідэнцкага па брытанскай мадэлі. Такім чынам, французы доўгімі пакручастымі шляхамі зноў прыйшлі да таго абрысу рэжыму ўлады, які англічане пачалі ствараць у XIII стагоддзі, а завяршылі ў 1688 годзе — на сто гадоў раней ад Вялікай французскай рэвалюцыі.

Сцвярджаюць, што менталітэту і нашага народа гістарычна больш блізкай з'яўляецца соймавасавецкая (г.зн. парламентарная) мадэль палітычнай сістэмы. Пацвердзіць або абвергнуць гэта могуць толькі вынікі выбараў, чакаць якіх засталося ўжо нядоўга.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

*(У артыкуле скарыстаны матэрыялы працы Гі Лардэйрэ "Канстытуцыі і сістэмы выбараў").*

# КУЛЬТУРА — У "СВАБОДНЫМ ПАЛЁЦЕ"

Уздым узроўню жыцця народа, нашай дзяржавы немагчымы, на наш погляд, без захавання культурнай спадчыны, адраджэння нацыянальнай культуры, яе далейшага развіцця і росквіту.

Новую незалежную дзяржаву Беларусь можна ўмацаваць і прывесці яе да росквіту вырашэннем не толькі эканамічных, палітычных пытанняў. Як адзначалі многія вялікія мысляры ўсіх эпох, сапраўдная эвалюцыя адбываецца толькі на асновах Ведаў і Прыгажосці. Без ведання велічы культуры, яе багацця і прымнажэння не можа быць росквіту нацыі, міжнароднага ўзаемаразумення, міру паміж народамі, правільнага вырашэння сацыяльных праблем.

У культуры — сінтэз розуму, душы, самаабароны ад духоўнай дэградацыі чалавека, выратаванне ад невуцтва, пакутаў.

Кіраўнікі і працаўнікі ўстановаў культуры г.Пінска, адчуваючы на сабе штодзённае зніжэнне памераў дзяржаўнай фінансавай падтрымкі, звяртаюцца ў газету, спадзеючыся на падтрымку нашых прапановаў усімі, хто па сваім службовым і грамадзянскім стане можа дапамагчы. Ужо сёння ў рэспубліцы ёсць прыклады дзейнасці камерцыйных банкаў, якія дапамагаюць, як могуць, у гэты цяжкі час. Можа, гэтыя банкі, пры пэўных умовах, маглі б сапраўды істотна паспрыяць сістэме культуры.

**Мы просім, каб:**

**1.** Усе выдаткі, якія банкі робяць дзеля матэрыяльнай падтрымкі з мэтай захавання і далейшага развіцця ўстановаў культуры, захавання культурнай спадчыны, дазваляць уключаць у сабекошт.

**2.** Частку прыбытку, якая выкарыстана банкам для матэрыяльнай дапамогі ўстановам культуры, выключыць з падаткаабкладання.

**3.** Банкам, якія матэрыяльна садзейнічаюць установам культуры, даць ільготы па падаткаабкладанні прыбытку.

**4.** Выдзеліць з бюджэту дзяржавы крыніцы для стварэння Камерцыйнага банка, які займаўся б абслугоўваннем установаў культуры, і падтрымліваць яго.

**5.** Зацікавіць прадпрымальнікаў, камерцыйныя структуры пэўнымі льготамі, каб мецэнацтва стала для іх выгоднай, ганаровай справай.

**6.** 48 камерцыйных банкаў, што зарэгістраваныя ў Нацыянальным банку рэспублікі, маглі б дапамагчы нашай беларускай культуры, яе ўстановам і аднесціся да нашага болю са спачуваннем. Мы нават не аб узроўні сваіх зарплат клапоцімся, а аб справе, аб захаванні талентаў дзяржавы, на навучанне і выхаванне якіх патрэбны дзесяцігоддзі. Можа быць, не гэтыя, а якіясьці іншыя рашэнні патрэбны.

**Л.БАХАНОВІЧ, дырэктар Пінскай вучэльні мастацтваў; В.СМІРНОВА, дырэктар Пінскай дзіцячай харэаграфічнай школы; І.ЧЭРКАС, дырэктар дзіцячай музычнай школы №1; Г.АРЛОЎ, дырэктар спецыялізаванай музычнай школы №2 г.Пінска; Н.ВІЛЮТАВІЧЭНЕ, дырэктар цэнтральнай гарадской бібліятэчнай сістэмы г.Пінска; Е.ШАТОХІН, дырэктар Пінскай дзіцячай школы выяўленчага мастацтва; М.СЛЕСАРЧУК, дырэктар Пінскага гарадскога дома культуры; І.БАЗАН, дырэктар Пінскага Народнага драматычнага тэатра "Дыяген"; В.ЛЫТНЁЎ, дырэктар музея "Беларускае Палессе".**

## "ЯК ПАЙДУ Я Ў НОВУЮ КАНЮШНЮ..."

20 сакавіка ў канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі а 19 гадзіне адбудзецца канцэрт-прэм'ера фолк-гурта "Палац".

Упершыню так шырока будзе прадстаўлена праграма унікальнага калектыву, якую складаюць старажытныя беларускія песні, таленавіта аранжыраваныя самімі выканаўцамі ў стылі рок-мадэрн.

Адметна і тое, што разам з вядомымі музыкантамі на сцэну выйдзе дзіцячы фальклорны гурт з Міханавічаў пад кіраўніцтвам Ларысы Рыжковай. Суправаджаць іх тэатралізаваныя "карцінкі з жыцця" будзе знакаміты музыка і майстар па вырабе старажытных народных інструментаў Уладзімір Пузыня.

Гурт "Палац" мае шмат прыхільнікаў і ўзнагарод за мяжой. Гастролі артыстаў з Беларусі адбываліся ў многіх краінах свету, а вось на сваёй Бацькаўшчыне сольны канцэрт на прэстыжнай прафесійнай сцэне яны будуць даваць упершыню. У праграме прагучаць папулярныя "хіты", сярод якіх — "Хрыстос нарадзіўся...", "Страла", "Як пайду я ў новую канюшню...".

**Наш кар.**

# "ИЗВИНИТЕ, ГОСПОДА, И ПОДВИНЬТЕСЬ"

## Адказ магілёўскаму земляку

Недзе ў сярэдзіне студзеня па Беларускім радыё выступаў прадстаўнік адной з партый патрыятычнага руху Беларусі. Прозвішча я не запомніў, а вось сутнасць выступу выклікала нязгоду. Назваўся чалавек родам з Магілёўшчыны. І гаварыў пра тое, што рускія і беларусы — адна нацыя, мае адну культуру, адну гісторыю, і таму быць нам трэба ў адной дзяржаве.

Я таксама з Магілёўшчыны, родам з Кіраўскага раёна. Мая вёска Старыя Дваранінавічы знаходзіцца на мяжы з некалі слаўтым калгасам "Рассвет" імя К.Арлоўскага. На правах земляка я хачу адразу запярэчыць выступоўцу. Беларусы, як, дарэчы, і ўкраінцы, ніякая не "ветвь"-галіна рускага народа, а самастойная супольнасць славян са сваёй самабытнай культурай, светаглядам, мараллю, гаспадарчым ладам жыцця. Калі лідэр патрыятычнага руху гэтага не ведае, што ж... Па веды я яго далёка не пашлю. Раю ўзяць у рукі звычайны падручнік. Той, што вывучаюць дзеці ў школах Расіі ды студэнты ў інстытутах. Называецца "Русская история (IX — середина XVIII в.)", аўтары — І.Заічкін і І.Пачкаеў, выдадзены ў выдавецтве "Мысль" у 1992 годзе.

На старонцы 198 напісана: "Формирование белорусской народности происходило в западных землях Руси — на территории между реками Западный Буг, Западная Двина, Сож и Припять, где располагались Минское, Полоцкое и Витебское княжества". І далей: "В XIV — XV вв. в крае заметно оживились связи между сёлами и городами. Быстро развивались ремёсла и сельское хозяйство, значительно расширилась торговля. Наличие многочисленных водных путей существенно облегчало общение жителей края. В характере народа, в его быту, жилище, одежде и пище складывались и развивались черты, отличные от тех, что были присущи русским и украинцам".

На старонках 197 — 198 гаворыцца і пра асаблівасці беларускай мовы. Я не мовазнаўца, я — ваенны чалавек, палкоўнік, але не паленаваўся прачытаць у падручніку наступнае. Беларуская мова фармавалася на працягу многіх стагоддзяў. Адны словы дайшлі да нас з часу агульнаславянскага адзінства, другія належаць да агульнаўсходнеславянскага перыяду, трэція ўзніклі ў эпоху фармавання мовы беларускай нацыі, чацвёртыя — запазычаныя з іншых моваў: грэчаскай, нямецкай, лацінскай, французскай, англійскай. Дагэтуль дзеля аздобы ў яе ўрываюцца варварызмы: мерсі, бонжур, пардон, о'кей.

Шаноўны зямляк! Ці задумваўся ты калі, што азначае слова народ па-славянску? Не? Дык ведай: слова "народ" — гэта "язык", "мова". Мова ў славян розніла адно племя ад другога, акрэслівала тэрыторыю, дзе жылі носьбіты адной мовы. Яны былі непасрэднымі яе стваральнікамі. Маскоўскія лінгвісты падлічылі, што



беларусы прынеслі ў агульнаславянскую моўную скарбонку прыблізна каля ста словаў, якіх няма ў іншых славянскіх мовах.

Нам, беларусам, ніколі не спазнаць адметныя рысы рускай нацыянальнай самасвядомасці, гэтак жа як і не спазнаць сваёй, беларускай, калі не зразумеем, не засвоім аб'ектыўныя (і суб'ектыўныя таксама) прычыны гістарычнай наканаванасці.

На працягу стагоддзяў перашкаджалі станаўленню беларускай незалежнасці, з аднаго боку, расейскі, а з другога — польскі імперыялізм. Палітыка палякаў палягала ў мэтах экспансіянісцкіх — заняволення беларусаў, асіміляцыі, забароне ад 1697 года беларускай мовы. З перамогай рускіх войскаў у другой палове XVIII ст. беларусы не былі вызвалены ад няволі. Прыгнёт працягваўся. Беларусы пазбавіліся нацыянальнай Айчыны, перасталі быць гаспадарамі на сваёй спрадвечнай тэрыторыі. Дзеля духоўнага прыгону былі кінуты ўсе сродкі: падман, прымус і прылашчванне, забарона беларускай школы і дзяржаўнасці, затушоўванне гістарычнай памяці. Расейскія ідэолагі стараліся напоўніцу. Чаго варты адзін хаця б пастулат аб выключнасці і абранасці рускага народа! Было гэта ў Расійскай імперыі канца XVIII — пачатку XX стагоддзя і ў імперыі савецкай.

Дзеля тэрытарыяльных заваёваў кідаліся рускія штыхі, якія неслі не вызваленне, а кроў, слёзы, смерць.

Эканамічны прымус увасабляўся ў запрашэнні будаваць народную гаспадарку з улікам мясцовых умоў і рэсурсаў, і краіна паціху ператваралася ў гіганцкі перапрацоўчы цэх, дзе па ўказцы з маскоўскага цэнтра для беларускай культуры і гаспадарання месца не заставалася. Амаль не запатрабаваны быў прафесійны, інтэлектуальны, разумовы патэнцыял беларусаў. Як кіраўнік, начальнік — дык абавязкова рускі!

Я думаю, што праўдзівасць і аб'ектыўнасць гісторыі, філасофіі, сацыялогіі больш за ўсё пакутуюць з-за сваёй падначаленасці кан'юнктурным інтарэсам той або іншай палітыкі і ідэалогіі. Пад маскай агульнасці славян, культур грамадская свядомасць падганяецца пад пэўныя палітычныя і ідэалагічныя ўстаноўкі. Носьбіты рускай ідэі, і гэта не дзіва, выступаюць супраць незалежнасці Беларусі, вядуць шырокамаштабны наступ на беларускае адраджэнне. А чым вытлумачыць вайну з рэдакцыямі газет, вылучэнне тэзіса, што добра думаць можна толькі на рускай мове, а на іншых — не?

Калі я люблю сваю маці-беларуску і імкнуся бараніць інтарэсы Беларусі — я нацыяналіст. Калі ж буду бараніць інтарэсы Расіі, я, па логіцы земляка з нейкага патрыятычнага руху, — патрыёт? Извините, господа, и подвиньтесь!

Беларус — не рускі, рускі — не беларус. У нас розны менталітэт, псіхічны склад, месца сярод іншых нацыяў, прыярытэты.

І ідэя ў беларускай нацыі мусіць быць іншая, свая — ідэя дзяржаўнай незалежнасці.

Жыве Беларусь!

**Леанід ЦЫГАНКОЎ,**
**палкоўнік запасу,**
**кандыдат гістарычных навук**

НАШ ВЫБАР — ІНТЭЛЕКТ

# "У НАС УСЁ ТОЙ ЖА САЦЫЯЛІЗМ, ТОЛЬКІ З ІНШАЙ НАЗВАЙ..."

***Старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Антонавіч Багданкевіч — адзін з нешматлікіх сучасных эканамістаў, чыя пазіцыя выклікае павагу, хто рэальна і цвяроза бачыць шляхі выхаду з крызісу, але, не маючы магчымасцей прымаць палітычныя рашэнні, вымушаны абмяжоўвацца "пажарнымі" мерамі. З задавальненнем чытаючы яго інтэрв'ю і слухаючы яго па радыё, бачыш, з якімі неймавернымі намаганнямі імкнецца высакакласны спецыяліст, прафесар, растлумачыць нашым палітыкам (якія часта нагадваюць першакласнікаў) сутнасць рынкавых рэформаў — прычым адчуваецца, што гэтыя тлумачэнні ўспрымаюцца з цяжкасцю. Можа, менавіта яго страснасць у сцвярджэнні Нацыянальнага банка як сапраўды нацыянальнага, палітыка якога не залежыць (або не павінна залежаць) ад іншай дзяржавы, а таксама пастаянны клопат аб стварэнні сапраўднай банкаўскай сістэмы і прыцягваюць да яго нашу ўвагу.***

***Рэферэнт-сакратар С.Багданкевіча Наталля Дуброўская гаворыць аб вялікай занятасці Станіслава Антонавіча, яго ўвазе да людзей, многія з якіх — пенсіянеры, што шукаюць дапамогі, разгубіўшыся ў новай, ніколі не чаканай імі сітуацыі, прадпрымальнікі, што толькі набіраюць вопыт. Магу сказаць, што і я адчуў тую ўвагу да субяседніка, пра якую гаварыла Наталля, і ўдзячны Станіславу Антонавічу за размову, частку якой я прапаную нашым чытачам.***

**Ягор ФЯДЗЮШЫН:** Эканамічная моц любой дзяржавы залежыць перш за ўсё ад інтэлекту народа і прыродных рэсурсаў. Як Вы ацэньваеце магчымасці гэтых фактараў на Беларусі дзеля выхаду з крызіса? Якія яшчэ магчымасці для гэтага Вы бачыце?

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ:** Ролю інтэлекту народа, які мы разумеем як узровень яго адукаванасці, агульнай культуры і здольнасці выкарыстоўваць сучасныя тэхналогіі ў вытворчасці, наўрад ці можна па значнасці ставіць побач з наяўнасцю прыродных рэсурсаў.

Эканамічная гісторыя сведчыць, што найбольшых поспехаў у матэрыяльнай культуры і духоўным жыцці дамагліся менавіта тыя народы, дзе прыродныя рэсурсы былі абмежаванымі. І, мяркую, гэта цалкам вытлумачальна. Адсутнасць карысных выкапняў прымушала насельніцтва гэтых дзяржаў шукаць спосабы і формы вытворчасці, што дазваляюць дамагацца максімуму эфектыўнасці ў выкарыстанні абмежаваных рэсурсаў. Да прыкладу, возьмем Японію, большасць заходнееўрапейскіх краін, малодых "драконаў" Паўднёва-Усходняй Азіі — Паўднёвую Карэю, Сінгапур, Тайвань, у большасці сваёй яны ці наогул не маюць карысных выкапняў, ці здабываюць толькі некалькі іх відаў. Сканцэнтраваўшы свае людскія і матэрыяльныя рэсурсы на развіцці перадавых тэхналогій, яны выпрацавалі такую колькасць сучасных якасных тавараў, якая дазваляе ім набываць на рынках любыя рэсурсы. Можна таксама канстатаваць, што наяўнасць прыродных рэсурсаў з'яўляецца фактарам, які стрымлівае развіццё паўнавартасных нацыянальных эканомік, таму што разведка і здабыча адцягвае значныя фінансавыя сродкі і працоўныя рукі ад больш эфектыўнага вытворчага выкарыстання. Таму ніводную з краін, што валодаюць вялікімі запасамі прыродных рэсурсаў, за выключэннем нафтаздабываючых краін Блізкага Усходу — тут выпадак выключны, мы не бачым у ліку лідэраў па ўзроўню жыцця насельніцтва. Нават ЗША, што маюць такія рэсурсы, аддаюць перавагу зняшнэнню іх здабычы і набываюць сыравіну на сусветных рынках.

Таму адсутнасць значных прыродных рэсурсаў на Беларусі не трэба расцэньваць як нейкі вырашальны фактар для нацыянальнай эканомікі. Інтэлект жа беларускага народа дастаткова высокі і менавіта на яго нам трэба разлічваць у першую чаргу. Мы павінны імкнуцца развіваць яго і выкарыстоўваць з максімальным эфектам. Прычым не толькі для развіцця тых галін прамысловасці, якія здольныя вырабляць тавары, канкурэнтаздольныя на сусветных рынках, але і шляхам ператварэння краіны ў гандлёвага і фінансавага пасрэдніка паміж Усходам і Захадам, Поўначчу і Поўднем. Усе неабходныя геапалітычныя перадумовы для гэтага ёсць, патрэбна толькі дакладная і рацыянальная праграма дзеянняў у гэтым накірунку для заканадаўчай і выканаўчай улады.

**Я.Ф.:** У сусветным грамадстве існуюць дзяржавы, якія жывуць на пазыкі і квітнеюць (напрыклад, ЗША — 4 трыльёны долараў). А ёсць, наадварот, тыя, якія не маюць пазыкаў і таксама квтнеюць. Што перашкаджае квітнець нашай Беларусі?

**С.Б.:** Перш за ўсё неабходна размяжоўваць пазыкі дзяржаваў. Ёсць запазычанасць дзяржавы перад сваімі грамадзянамі і прадпрыемствамі, так званая ўнутраная пазыка, якая ніякім чынам не ўплывае на ўзровень жыцця ў краіне, таму што праз выплату працэнтаў па ёй адбываецца толькі пераразмеркаванне нацыянальнага прыбытку ўнутры краіны. Больш за тое, у шэрагу выпадкаў, пазычаючы грошы ўнутры краіны, дзяржава рэгулюе такім чынам грашовую масу і стымулюе сваімі замовамі і выплатамі попыт на таварным рынку. Менавіта такі характар носіць запазычанасць ЗША. Праўда, па некаторых ацэнках, ягоная велічыня ўжо наблізілася да небяспечнай рысы, паколькі на штогоднае абслугоўванне гэтай велізарнай сумы выдаткоўваецца занадта вялікая частка бюджэту краіны і ставіцца пад пагрозу фінансаванне іншых дзяржаўных праграмаў.

Іншы сэнс і наступствы мае знешняя запазычанасць, якая накопліваецца за кошт адмоўнага гандлёвага балансу і прыцягнення знешніх крэдытаў, асабліва па лініі ўрада. Выплата самой запазычанасці і працэнтаў па ёй кладзецца з цягам часу цяжкім бярэмем на эканоміку краіны, паколькі памяншае фінансавыя сродкі ў цвёрдай валюце, якія маглі б быць скіраваныя на ўласнае развіццё. На 1 студзеня 1995 г. знешняя запазычанасць Беларусі перавысіла 1,6 млрд. долараў ЗША. Сума, як бачыце, велізарная, а эфект ад яе вельмі сціплы, таму што гэтыя грошы ў асноўным "праедзеныя", а не накіраваныя ў якасці інвестыцыяў у народную гаспадарку. Інакш кажучы, яны не даюць прыбытку, за кошт якога можна было б выплочваць гэтую запазычанасць.

Ураду трэба больш увагі надаваць стварэнню ўмоваў для прыцягнення прамых інвестыцыяў капіталу з-за мяжы — непасрэднага ўкладання сродкаў у беларускія прадпрыемствы, у стварэнне новых сумесных і цалкам замежных вытворчасцей, у інфраструктуру — на камерцыйнай падставе без удзелу дзяржавы.

**Я.Ф.:** Якое Вашае стаўленне да нядаўніх дамоваў з Расіяй і да выказванняў нацыянальнай інтэлігенцыі аб тым, што нам пагражае страта суверэнітэту?

**С.Б.:** Трэба было б напачатку нам вызначыцца — што мы хочам? Калі ўжо вырашылі страчваць наш суверэнітэт, то тады трэба ламаць і Канстытуцыю, а потым і аб'ядноўвацца. А ўвогуле — трэба паважаць самых сябе. Толькі што прынялі Канстытуцыю, яшчэ, можна сказаць, і чарніла не абсохла, а мы ўжо гатовыя аддаваць суверэнітэт і парушаць фундаментальнымі інтарэсамі нашага народа.

У нас ёсць інстытут эканомікі, дзе працуе 400 чалавек. Здавалася б, палічыце ўсе "за" і "супраць" — прыродныя рэсурсы, кошт транзіту, чыгуначны, дарожны, паветраны... Падлічыце, колькі мы маглі б за гэта атрымліваць — і параўнайце з тымі нібы невысокімі цэнамі на энерганосьбіты, якія мы атрымліваем з Расіі. Бачна, што гэтыя цэны будуць функцыянаваць год-два — а пасля непазбежна зраўняюцца з сусветнымі. Калі мы заключаем дамовы на 20 гадоў, а гэтую выгаду згубім праз год-два... На жаль, мы не абмяркоўваем і не рашаем гэтыя праблемы глабальна. А ва ўмовах рынку ніякай выгады цэнтральны ўрад Расійскай Федэрацыі для нашай эканомікі даць не можа. Калі ў іх ужо 70-80 працэнтаў прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў акцыянавана і палнуе прыватная ўласнасць, то ў нас на 90 працэнтаў камандуе дзяржава.

**Я.Ф.:** І ўсё ж мы шмат гаворым аб рынкавых рэформах...

**С.Б.:** Вось менавіта — гаворым. Нас крытыкуюць у народзе — маўляў, рынак "знішчыў" эканоміку, дэмакратыя "знішчыла" эканоміку... Ды не створана яшчэ, па сутнасці, нічога. І сістэма ў нас такая: "Калгас, здавай мяса на мясакамбінат — няважна, што не заплацяць. Будуй — няважна, што ў заказчыка няма грошай". У нас ніхто нікому не плаціць, і ў наяўнасці 23 трыльёна неплацяжоў. Вось у чым праблема, а не ў тым, як гавораць некаторыя: крызіс таму, што ў нас жахлівая банкаўская, крэдытна-фінансавая сістэма. У нас пакуль не рынак, а той жа сацыялізм, толькі пад іншай назвай.



**Я.Ф.:** Якія памеры і ўмовы замежных інвестыцыяў, што маглі б дапамагчы Беларусі выйсці з крызісу?

**С.Б.:** Праблема зноў-такі не ў памерах і ўмовах замежных інвестыцыяў, а ў іхнім характары. Прамыя інвестыцыі ў беларускую эканоміку прыватных інвестараў з-за мяжы ў сённяшніх умовах можна дапускаць без усялякіх абмежаванняў, паколькі яны самі нясуць за іх адказнасць. Як толькі іхняя прыбытковасць пад уплывам канкурэнцыі зменшыцца да ўзроўню, параўнальнага з эфектыўнасцю размяшчэння свабоднага капіталу ў ягонай уласнай краіне, прыток замежных інвестыцый спыніцца. Іншымі словамі, іх лёгка можна рэгуляваць шляхам павышэння ці змяншэння прыбытковасці, у тым ліку, і штучна — падаткамі і іншымі шляхамі. Магчыма, некаторыя абмежаванні з цягам часу давядзецца ўвесці дзеля абароны ўласных вытворцаў, напрыклад, у сельскай гаспадарцы. Але гэта ў будучыні, а сёння такіх інвестыцый пакуль яшчэ вельмі мала, і трэба думаць аб тым, як іх прыцягнуць. Для гэтага, на маю думку, неабходна спрасціць працэдуру рэгістрацыі замежных і сумесных прадпрыемстваў, дазволіць прадаж ім зямлі ў прыватную ўласнасць пад будаўніцтва, дазволіць удзельнічаць у прыватызацыі на агульных умовах, гарантаваць стабільнасць эканамічнага заканадаўства і да т.п.

Што ж датычыць крэдытаў па лініі ўрада, дык да іх трэба ставіцца больш асцярожна і прыцягваць толькі ў тым выпадку, калі гарантаванае іхняе размяшчэнне ў валютаакупаемыя праекты. Гэта ўжо многія зразумелі, і адпаведны запіс унесены ў праграму неадкладных мер.

**Я.Ф.:** Вядома, што на Захадзе ёсць прыватны капітал, які ў стане фінансаваць нашыя нацыянальныя праграмы і нават Нацыянальны банк на пэўных умовах. Якія ж гэтыя ўмовы? Ці атрымалі Вы такія прапановы?

**С.Б.:** Не трэба думаць, што заходні капітал будзе фінансаваць нашыя нацыянальныя праграмы, пра якія, дарэчы, цяжка сказаць што-небудзь канкрэтнае, з нейкіх гуманных памкненняў. Толькі ўласная карысць — і гэта нармальнае памкненне — можа прыцягнуць яго. Прапановы такога кшталту мы маем, але іх не так шмат, як бы хацелася. Асабліва з боку сур'ёзных інвестараў з добрай рэпутацыяй. Многіх палохае недасканаласць беларускага заканадаўства, нетрываласць нашага суверэнітэту і недастатковая палітычная стабільнасць унутры краіны і ў рамках СНД.

**Я.Ф.:** Кожны чалавек, тым больш дзеяч дзяржаўнага маштабу мае сваю мэту (мару, прызначэнне) і, згаджаючыся на якую-небудзь пасаду (ці дамагаючыся яе), марыць выконваць сваю задачу. Якая Вашая мара на пасадзе галоўнага банкіра краіны?

**С.Б.:** Старшынёй праўлення Нацыянальнага банка я стаў, калі можна так выславіцца, на пачатку фармавання ў Рэспубліцы Беларусь самастойнай банкаўскай сістэмы, і, натуральна, мая мэта і мара на гэтым этапе, па-першае, — стварэнне такой сістэмы фінансава-крэдытных установаў у краіне, якая задавальняла б самыя строгія патрабаванні па сусветных стандартах, і, па-другое, у правядзенні грашова-крэдытнай палітыкі, здольнай дапамагчы стабілізаваць нацыянальную эканоміку і ўмацаваць суверэнітэт маёй краіны.

Мяркую, што першая задача ў асноўным выканана. Закладзены прававы і нарматыўны падмурак бяспечнага для кліентаў вядзення банкаўскай справы, адладжаны механізм разлікаў не толькі ўнутры краіны, але і з усім знешнім светам. Рэспубліка сталася членам шэрагу ўплывовых міжнародных фінансавых арганізацыяў. Можна сказаць, што ўведзена і някепска функцыянуе нацыянальная грашовая адзінка — беларускі рубель.

Больш складана з другой задачай. Нягледзячы на высілкі Нацыянальнага банка, эканоміка краіны знаходзіцца ў разладжаным стане і няма эканамічных умоваў для стабілізацыі грошай, давядзення працэнтных ставак да нармальнага ўзроўню. Адпаведна, практычна паралізаваны працэс інвеставання сродкаў у эканоміку, і мы "праядаем" сёння тое, што было створана папярэднім пакаленнем. Як ніколі раней, паўстала пытанне аб фармаванні высокапрафесійнага заканадаўчага органа, які быў бы здольны даць новае жыццё працэсу заканатворчасці. З тым багажом законаў, які мы маем, далёка не пойдзеш.

Пра гэта я сёння шмат разважаю, і не выключана, што прыму нейкія рашэнні для самога сябе.

**Я.Ф.:** Дзякуй за размову. Поспехаў Вам!

Фота Генадзя ЖЫНКОВА

## СІТУАЦЫЯ

# "КРАІНА Ў КРАТАХ..."?
## Таталітарны жах на вуліцах Менска

СЁННЯ нашае грамадства толькі пачынае вучыцца таму, што называецца дэмакратыяй. Працэс дэмакратызацыі адбываецца вельмі павольна. Гэта і не дзіўна, бо перабудоўвацца катэгарычна не жадаюць кіраўнікі нашай дзяржавы, а таталітарная машына былой імперыі не знішчана, а толькі злёгку прыхаваная.

Вядома, можна па-рознаму ставіцца да тых ці іншых гістарычных падзей, тым больш, што перманентныя супярэчнасці нашай гісторыі дапускаюць супярэчлівыя і тлумачэнні. Але пераконваць іншадумцаў у сваёй слушнасці мусяць кваліфікаваныя спецыялісты-даследчыкі з дапамогай навуковых аргументаў, а не міліцыянты, узброеныя дубінкамі.

18 лютага ў Менску, у памяшканні Гандлёвага тэхнікума павінен быў адбыцца рок-канцэрт, прысвечаны 52-м угодкам з дня заснавання Беларускай Краёвай Абароны. Меліся выступіць хард-рокавыя гурты "Жыгімонт Ваза" і "Barfly's dreams" і дэсавы "Pathologist Department". Вядома, БКА — досыць неадназначная з'ява ў беларускай гісторыі. Але ў дадзеным выпадку гэтая праблема не надта істотная, бо, відавочна, імпрэза мусіла мець культурны характар. Менавіта крытычнаму разгляду музычнага матэрыялу, які мелі прэзентаваць на канцэрце, я і меркаваў прысвяціць свой артыкул.

Па дарозе да месца падзеі мяне сустрэў незнаёмы хлопец і папярэдзіў, што канцэрт забаронены, а будынак тэхнікума ачэплены міліцыяй. Я ведаю, у якой дзяржаве жыву, таму не надта здзівіўся, калі мяне спынілі міліцыянты і не вельмі ветліва прапанавалі "п...ть отсюда, пока кости целы", суправадзіўшы гэтыя словы некалькімі эпітэтамі і абяцаннем "постричь".

Дык што ж адбылося ў гэты вечар і папярэднічала яму?

Супрацоўнікам фірмы "Sat", арганізатарам канцэрта, давялося зведаць шмат праблемаў у гэтай справе. Службоўцы з кабінетаў выканкама, парогі якіх яны доўга абівалі, патрабавалі нават сцэнар імпрэзы з поўным спісам песень. (Такая практыка была ўласцівая хіба толькі камсамолу год дзесяць таму). Але ўсё ж канцэрт забаранілі, прычыну не растлумачыўшы. Пра гэта стала вядома яшчэ ўвечары 17 лютага. Аднак тым усё не скончылася. Юрась П., прэзідэнт фірмы, вырашыў праводзіць акцыю з гаўбца сваёй кватэры. Туды перавезлі апаратуру.

Цяпер мерапрыемства мела прыватны характар, і па законе ўлады забараніць яго не маглі. Але прыблізна а 15 гадзіне ў кватэры з'явіліся міліцыянты. На такі "дэмакратычны атрыбут", як ордэр з пракуратуры, патрэбны паводле Крымінальна-працэсуальнага кодэкса РБ дзеля таго, каб пераступіць парог прыватнага памяшкання, "людзі ў форме", вядома, забыліся. Яны прапанавалі ўсім разысціся і не рабіць аніякіх канцэртаў. Пераканаўшыся ў рашучасці арганізатараў і музыкантаў праводзіць акцыю, прыблізна а 17 гадзіне міліцыянты ўварваліся ў кватэру і затрымалі амаль усіх прысутных.

Але гэта не самае адметнае з таго, што адбылося ў той дзень. Да часу, пазначанага ў афішы, на канцэрт пачалі сыходзіцца людзі, якія не ведалі пра забарону. Шмат з іх было затрымана міліцыяй, што, як было пазначана вышэй, ачапіла будынак тэхнікума. Матывацыю гэтых дзеянняў зразумець цяжка: ці можна садзіць людзей у "каталажку" толькі за тое, што яны прыйшлі паслухаць музыку? Міліцыянты ўварваліся і ў адну з залаў самога будынка, дзе знаходзіліся музыканты і іхнія сябры. Такі самы лёс спасцігнуў і іх. Людзей хапалі нават на аўтобусным прыпынку, які знаходзіўся паблізу. Таму затрыманыя былі і тыя, хто не меў да канцэрта аніякага дачынення. У пастарунку, сярод іншых, апынуліся паэт Славамір Адамовіч і сябры яго-най арганізацыі "Правы рэванш", а таксама здымачная група "Студыі БМ".

Тодар Кашкурэвіч. Калясніца. 1987.

Трэба сказаць, што ніякай, так бы мовіць, далікатнасцю, хаця б такой, як таго патрабуе закон, у адносінах да затрыманых "стражи порядка" не вылучаліся. Адзін з супрацоўнікаў фірмы "Sat" распавядаў, што міліцыянт размову з ім пачаў з моцнага ўдару па сонечным спляценні. Пасля патрабаваў дакументы. Пабачыўшы сярод іх дазвол на нашэнне газавай зброі, ён тут жа парваў яго на кавалкі. Потым схапіў адну з афіш і з усёй моцы ўдарыў яго па галаве. Мой суразмоўца згадваў і пра тое, як міліцыянты вялі па калідоры нейкага тэлеаператара. Удары па ім наносілі вельмі часта, білі аб сценку таксама і камеру.

Пабоі, абразы і жорсткія кпіны зведалі і іншыя затрыманыя. Здзекаваліся з усяго: з доўгіх валасоў і ўбрання рок-музыкантаў і фанаў, з чорнай уніформы "рэваншыстаў", з беларускай мовы на вуснах людзей... Міліцыі не ўдалося інкрымінаваць большасці хаця б нейкую справу, і кампрамат утрываўся. Затрыманым абяцаліся буйныя непрыемнасці па месцы працы ці вучобы. Праўда, трэба адзначыць, што сярод міліцыянтаў сустракаліся і тыя, хто дзейнічаў выключна ў рамках закону і шкадаваў, што бярэ ўдзел у гэтай справе.

Пакуль невядома, хто даў загад затрымліваць і збіваць абсалютна невінаватых людзей. Але ставіць кропку ў гэтай недапушчальнай у любой дэмакратычнай краіне справе яшчэ рана: фірма "Sat", якая, дарэчы, панесла вялікія матэрыяльныя страты, збіраецца звярнуцца ў суд.

**Гальляш СВІРЫН**

г.Мінск

***Ад рэдакцыі:***

***Калі не ведаць, што падзеі, занатаваныя ў лісце, адбыліся ў мінулым месяцы, можна было б лічыць, што гэтая карэспандэнцыя — ліст з мінулага дзесяцігоддзя. Вось так жа ў 1988 годзе ў Мінску былі скіраваныя супраць людзей, што прыйшлі ўшанаваць памяць продкаў, вадамёты і міліцыянты з дубінкамі і "чаромхай". Што ж змянілася з таго часу? Пытанне вельмі актуальнае ў Дзень Канстытуцыі...***

# КІНО І ДАМІНО ДЛЯ КАЛГАСНІКА —
## гэта, на жаль, асноўная і распаўсюджаная "матэрыяльная база" ў вясковых клубах.

ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ "Культуры"! Піша вам загадчыца сельскага клуба вёскі Задвор'е. Хочацца праз газету падзяліцца з чытачамі набалелым, аб тым, што турбуе многіх людзей з правінцыі, якія займаюцца справай культурнага жыцця на вёсцы. Толькі не падумайце, што я скарджуся ці, яшчэ горш, прашу дапамогі. Нам, правінцыялам, не прывыкаць, змірыліся ўжо з думкай: варыцца ва ўласнай падліве невядома яшчэ колькі. Працуем, не звяртаючы ўвагі ні на палітычнае надвор'е, ні на палітычныя, зусім не суцяшальныя прагнозы.

Толькі ж становішча ў грамадстве як мага мацней б'е па культурным і духоўным жыцці. У правінцыі гэты подых часу, на мой погляд, асабліва адчувальны. І калі паспрабаваць сказаць, што культурнае жыццё на вёсцы рухаецца наперад, то лепей бы усім прамаўчаць.

І вось зараз, калі пішу гэтыя радкі, з галавы не выходзяць думкі: што б такое стварыць і правесці на радасць сабе і сваім аднавяскоўцам. І разумееш, што аднаго жадання недастаткова. Паўсюль натыкаешся на непрабіўную сцяну. Здаецца, і моцы ўжо няма, але калі зазіраеш у вочы сяброў-аднавяскоўцаў, бачыш у іх падтрымку і спачуванне. І невядома адкуль бяруцца задумы і творчы запал.

Міжволі ўзгадваю мінулы год. Цікавым і разнастайным быў ён у культурным плане для сялян. Усе вечарыны праходзілі пад эгідай года сям'і і 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На сваіх магчымасцях мы праводзілі свята сям'і, дні сямейнага адпачынку. Думаецца, яны прыйшліся даспадобы кожнаму і надоўга застануцца ў памяці.

Ігар Кашкурэвіч. "Мастацтва стварэння букетаў".

Што ж можна прапанаваць сёння простаму вясковаму жыхару, калі многае, што некалі было неабходным, зараз нікому не патрэбна, нават выклікае ўсмешку. Чырвоныя дні календара ўжо даўно не існуюць, зацверджаныя новыя цяжка ўспрымаюцца вяскоўцамі. Таму не дзіўна, што многія святы праходзяць папросту незаўважнымі. Як гэта летась, прынамсі, здарылася з Днём працаўнікоў сельскай гаспадаркі. У цэнтры раёна ён быў арганізаваны на належным узроўні, але не кожны вясковец можа дазволіць сабе, асабліва сёння, паездку за шмат кіламетраў. Не па кішэні... Вось і атрымліваецца, што калгаснік трапляе ў нейкую ізаляцыю, робіцца адарваным ад знешняга свету. Тэлевізар і радыё, відавочна, не выйсце.

Маглі б падобнае свята арганізаваць і мы, у сябе на вёсцы, але... Шмат чаго можна арганізаваць і правесці, толькі ж планы і надзеі раствараюцца нібыта дым у паветры па не залежных ад нас абставінах.

... "Хвала рукам, што пахнуць хлебам", "Гарыць на ферме агеньчык", "Провады на пенсію", — гэта толькі невялікая частка з таго, што мяркуецца правесці ў бліжэйшы час. І зноўку паўстае "але". Усе ўзгаданыя вышэй вечарыны ў рэальнасці могуць адбыцца толькі пры фундаванні калгасаў, арганізацый... Толькі ж яны сёння самі ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі і з цяжкасцю знаходзяць грошы, каб выплаціць працаўнікам заработную плату.

Ёсць у маіх планах і так званыя традыцыйныя святы, што выцякаюць з глыбінь стагоддзяў: "Калядкі", "Масленіца", "Гуканне вясны", "Сёмуха". Знаходзім цікавыя сцэнары, якія амаль без змяненняў можна тэатралізаваць і разыграць. Усё гэта, безумоўна, добра, але зноў паўстае пытанне: а ці маю я права разыгрываць на Гродзеншчыне традыцыйныя паганскія святы Гомельшчыны і г.д.?

Яшчэ мяне хвалюе праблема арганізацыі адпачынку моладзі. Што я як загадчыца клуба магу прапанаваць? У суботу-нядзелю звычайнае "традыцыйнае": танцы, кіно, даміно? Што яшчэ? Чым зацікавіць моладзь, калі ў клубе толькі адна танцавальная зала? Пра спартовую залу і думаць забылася. Басейн — гэта і ўвогуле з разраду фантастыкі.

Вось і застаюцца зноў шашкі і даміно...

**Леанарда ВАНОВІЧ**

Зэльвенскі раён

***Ад рэдакцыі:***

***Так было, на жаль, і дзесяць, і дваццаць гадоў таму... Дзяржава ніколі не клапацілася пра сваіх працаўнікоў на зямлі, высмоктваючы ўсе сокі з селяніна, нічога не даючы ўзамен.***

***...Гэтыя горкія плады, як вынікі недаравальных памылак, пачынаем збіраць сёння мы.***

# СПРАЎ — МНОГА,

"Браты і сёстры! Пастамі, утаймаваннем ганебных пачуццяў і звычак, штодзённай шчырай малітвай, нават самай кароткай, але з пакаяннем, з усведамленнем уласных грахоў мы засцерагаем сябе, сваіх родных і блізкіх, у рэшце рэшт, радзіму, народ ад розных напасцей, хвароб", — у такім кантэксце, у цішы перапоўненай палаткі-царквы гучаў мяккі барытон яе настаяцеля.

У трэці раз тут адзначалася стольнае свята. У той дзень, сонечны, двойчы святочны, мітрапаліт Філарэт асвяціў будучы галоўны будынак запланаванага комплексу — храм-помнік у гонар Божай маці "Усіх тужлівых радасць" на ўспамін аб ахвярах Чарнобыля. Пяцікупальны, чатырохслупны, з купаламі шаломавіднай, характэрнай для беларускага дойлідства формы, ён паўстане побач з ужо ўзнятай хрысцільняй, будаўніцтва якой было ўрачыста асвечана ў дні святкавання 200-годдзя Мінскай Епархіі. Прыгадаем, што дадаткова ў комплекс увойдуць: трапезная (сталоўка), прытулак для абяздоленых, праваслаўная бібліятэка, нядзельная царкоўна-прыходская школа, будаўніцтва якой таксама ўжо распачата і таксама адзначана 31 снежня 1994 года ўрачыстым мерапрыемствам закладкі капсулы. Тут размесцяцца шэраг майстэрань: іканапісная, швейная, дрэваапрацоўчая — вакансіі для ўладкавання на працу пакутнікаў-інвалідаў. Настаяцель, протаіерэй Ігар Карастылёў — былы архітэктар, і веды яго вельмі дарэчы. Цяпер ён добра вядомы сярод пэўных колаў, і не толькі рэспублікі Беларусь. Нядаўна, па запрашэнні нямецкіх сяброў (каб паспрыяць у зборы сродкаў на будаўніцтва, якіх увесь час не хапае) з царкоўным хорам наведаў Германію. Аб своеасаблівых гастролях маладога хору з беларускай сталіцы пісаў нямецкі друк. Маладыя ўдзельнікі хору (рэгент Вольга Янум) набываюць славу, поспех і ў сябе дома, як набылі і веру ў Бога менавіта тут, у царкве-палатцы. Ім, здольным, набожным, паспрыяе і надалей покрыў Божае Маці, каб не прыйшлося адчуць суперпарадокса нашага часу: у сябе на радзіме талентам яшчэ часта замінаюць.

"Наш хор, гастролі яго — гэта ж таксама набыткі духоўнай культуры рэспублікі", — гаворыць а.Ігар, непасрэдны саўдзельнік станаўлення беларускай духоўнай культуры не толькі ў лоне царквы, але і ў школах, турмах, бальніцах.

Штат кліру ўвесь час папаўняецца. Промыслам Божым дасланы трэці свяшчэннік, і колькасць набажэнстваў расшырыўся. Малады, шчыры ў сваёй вялікай любові да людзей іерэй Уладзімір Шычко (а.Уладзімір) адразу стаў для ўсіх блізкім. Рыхтуюцца кадры і на месцы. На вачах кліру, нас, прыхаджан, духоўна рос, каб усёй душой прыгарнуцца да Бога, цяпер ужо іерэй Алег Шульгін. Дапамажы, Божа, яму і надалей утрымаць у сабе гэтую высокую чысціню. Звычайна ж свяшчэнаслужыцелі імкнуцца пазбегнуць свайго ўслаўлення, тым больш частай хвальбы. Тут, безумоўна, і сціпласць іх, і разуменне шкоднасці злых, цёмных сіл, якія адразу таўкуцца вакол, каб ублытаць у спакушэнні. Засцеражы, Магутны наш Божа, усіх, каго я тут пералічваю.

"Які поп, такі і прыход", — сцвярджае народная прымаўка. Усю складанасць, адказнасць працы сваёй як настаяцель а.Ігар вызначыў кароткай рэплікай: "Значна цяжэй самога будаўніцтва (гэта пры такім аб'ёме, маштабах! — **Аўт.**) станаўленне прыхода". Прызначаць, згуртоўваць людзей, развіваць пачуццё адказнасці, добрасумленнасці, шчырасці ў працы — што і казаць, складаная місія кіраўніка. Да таго ж і пералік гэты — малая толіка тых задач і праблем, якія ўзнікаюць у паўсядзённым жыцці і найчасцей нечакана. "І ўласны прыклад тут неабходны, — разважае далей а.Ігар. — Для духавенства ў нашым грамадстве патрабавальная планка

СІТУАЦЫЯ

# "РОС" — ПАРТЫЯ Ў АБАРОНУ "РУСКІХ МЕНШАСЦЯЎ",

## альбо "Нацыянальнае адраджэнне" па-новаму

ЗА ВАКНОМ, здаецца, вясна 95-га. Перабудова з ейнымі прынцыпамі адышла ў нябыт, — яе ўзгадваюць, як няўдалую спробу змянення мыслення ва ўжо гнілой дзяржаве — крах якой быў відавочны ў бліжэйшым часе, — дый пасля віскулёўскіх пагадненняў чацвёрты год пайшоў. Пасляэсэсэсэраўскія рэспублікі крывёю адстаялі сваю незалежнасць: пралілася кроў у Грузіі, Малдове. Сёння пачынаюць з'яўляцца новыя гарачыя кропкі на ўчарашняй магутнай і неабсяжнай. Вось дзе дарэчы ўзгадаць рахманасць беларусаў: не дадумаліся мы яшчэ да таго, каб пускаць кроў адзін аднаму. На суседзяў нагледзеўшыся, і мы ўслед вырашылі ісці сваёй самастойнай дарогай, прытрымліваючыся мудрасці вякоў: лепш пазней, чым ніколі. Як вынік — прынялі дэкларацыю незалежнасці, зацвердзілі закон аб мовах (з дня ўступлення ў сілу якога мінула, між іншым, пяць гадоў), з мітынговых плошчаў РОДНАЕ слова паціху перакачоўвае ў школкі, ВНУ — "працэс пайшоў", так бы мовіць.

Калі незалежнасць, значыць незалежнасць. І не перашкодзілі ёй ні найноўшыя славянафілы (СС "Белая Русь" і К°), ні шырокай душы славяне-камуністы: іхнія сэрцы яшчэ сціскаюцца ад настальгіі па каланіяльна-імперскіх часах, жыццё пражытае — не поле пяройдзенае: а колькі ж беларусаў паклалі свае жыцці на алтар магутнага СССР!

Толькі ж і часы не тыя — у іншым вымярэнні жывем. Хаця эсэсэсэраўскі дух усё часцей вітае ў паветры. Не паспелі з'явіцца беларускамоўныя школы — узніклі так званыя бацькоўскія камітэты за свабодны выбар мовы навучання. Не паспела высахнуць друкарская фарба газетных паведамленняў аб стварэнні арганізацыі "Русское общество", як журналісты-ведуны прынеслі новую вестку: у Мінску з'явілася чарговая партыя "Русский Общенациональный Союз". І ўсе яны як адзін стаяць гарой у абарону правоў "рускай меншасці". Вось і ўзнікае пытанне ў радавога грамадзяніна, проста шчырага беларуса, — у якім такім прыгнечаным становішчы знаходзіцца ўзгаданая вышэй "меншасць", што ў апошнія часы для абароны іх правоў з актыўнасцю мух плодзяцца разнастайныя арганізацыі, партыі? Ды ад каго рускіх бараніць — ад рускамоўнай большасці, да якой дарэчы адносяць сябе шмат хто з беларусаў? А нам жа, наіўным, здавалася: хто б ты ні быў па нацыянальнасці, а жывучы ў краіне, выконвай яе законы. А нашыя ж, даруйце за словаўжыванне, памяркоўныя на любы густ законы не забараняюць нікому — ці ты з-пад Вільні, ці то з-пад Шклова — размаўляць на рускай, ідыш ці эсперанта...

Аднак "Русский Общенациональный Союз" па-свойму думае "облагодетельствовать русское меньшинство". Толькі ж новага яго члены нічога не адкрываюць. У Статуце, прынамсі, сказана: "Русский Общенациональный Союз" ставіць сваёй канчатковай мэтай пабудову сацыяльна справядлівага прававога грамадства, з высокамаральнымі палітычнымі ідэаламі і традыцыямі, з высокім узроўнем эканамічнага дабрабыту народа". Сапраўды, якраз гэтага і хочам усе мы, смертныя: годна жыць. Аднак, ні многа, ні мала, трыццаць адна партыя, што існуюць на Беларусі, прапаведуюць адны і тыя ж прынцыпы. А вось "РОС" думае выцягнуць нас з багны самым простым шляхам: праз пашырэнне ўплыву на Беларусі праваслаўя, выпрацоўвоў і свабоды рускай меншасці на Беларусі. Мы маем намер абараняць іх правы ўсімі даступнымі законнымі спосабамі і сродкамі, і калі з боку БНФ будзе навязана (?! — **Ю.Д.**) канфрантацыя, мы пакідаем за сабой права выкарыстоўваць усе канстытуцыйныя сродкі, каб пакласці канец альбо, у надзвычайным выпадку, аслабіць гэтую канфрантацыю".

Запытаецеся: а што яна сабой уяўляе — партыя з гучнай назвай "Русский Общенациональный Союз"? Пакуль нічога акрамя Статута і заяваў. Аднак за няпоўныя дзевяць месяцаў аргкамітэт атрымаў "дабро" дзяржаўных структур Расіі на стварэнне партыі. Асноўная праблема для "РОС" — арганізавацца як паўнавартасная ў колькасным сэнсе партыя. За грашыма



*Валеры Славук. З графічнага цыкла.*

кай і рэалізацыяй "новых мадэляў інтэграцыі РБ з краінамі СНД, у першую чаргу, з усходнеславянскімі дзяржавамі". Якраз на такі крок штурхаюць усіх нас дзяржаўныя мужы, і гэтага вельмі чакае ўсходняя суседка "ад Курыл да самых..."

Але ж кіраўніцтва партыі заяўляе, што "гэтак званую ідэю "нацыянальнага адраджэння" на сённяшні дзень манапалізаваў Зянон Пазьняк і сілы, што ідуць за ім у альянсе. Але гэта не дае ім такога права на манаполію ідэі нацыянальнага адраджэння. Ні ў якім выпадку не імкнучыся да канфрантацыі з існуючымі палітычнымі сіламі, у тым ліку і з БНФ, "РОС" мае права сцвярджаць, што ён з'яўляецца выказвальнікам права не стане. Дужа ж ласы кавалачак гэтая дзесяцімільённая краіна ў цэнтры Еўропы, каб не зважаць на яе.

... Усенародна абраны прэзідэнт фарсіруе адносіны з усходнеславянскай "старэйшай сястрой", абяцае правесці рэферэндум па моўным пытанні і нацыянальнай сімволіцы. Прарасійскія сілы актыўна ўліваюцца ў палітыку, прыкрываючыся дзяржаўнай-антыдзяржаўнай палітыкай. З'явіўся "Русский Общенациональный Союз", за ім усплывуць іншыя структуры такога ж кшталту — тэндэнцыя відавочная.

А што ж далей?..

**Юрась ДУБІНА,**
**карэспандэнт БелаПАН,**
**спецыяльна для "Культуры"**

# ГРАХІ НАШЫ ЦЯЖКІЯ...

У МІНУЛАГОДНІМ 22-м нумары нашага штотыднёвіка за 1 чэрвеня быў змешчаны артыкул "Старая з першага паверха" аб лёсе жанчыны, якая змірылася са сваім убогім існаваннем. Мінула ўжо даволі шмат часу, але мы не маглі прадбачыць, што гісторыя гэтая, і без таго сумная, будзе мець свой працяг. На жаль, таксама сумны.

Па меры магчымасці мы, журналісты, спрабуем сачыць за далейшым лёсам герояў артыкулаў і трымаць у курсе ўсіх справаў чытачоў, тым больш, калі публікацыі сапраўды выклікаюць вялікі рэзананс, калі газетны радок не пакідае абыякавым нікога, прымушае ад жалю сціскацца чалавечае сэрца, задумацца пра бліжняга свайго.

"З суседзяў па дому яе ўжо даўно ніхто не называў па імені, па імені па бацьку — тым больш. Мо не памятаюць... А хутчэй, і не ведалі ніколі, як клічуць гэтую жанчыну ўвогуле. Для іх яна ніхто. З цягам часу "старая з першага паверха" ператварылася ў жывы цень..."

Гэтая, сталага веку, сухая і згорбленая жанчына жыве ў цэнтры сталіцы. Свой лёс пабудавала ўласнымі рукамі і ў тым, з чым прыйшла яна да старасці гадоў, можа вінаваціць толькі сябе. І быццам жыццё ейнае павінна было б выклікаць у чужых людзей хіба толькі агіду, а не падтрымку і спачуванне. Ад яе тады сапраўды адвярнуліся суседзі — яна, "захутаная ў замусоленае, невядомага колеру рыззё, заўсёды наводзіла жах на прахожых ды дзяцей, што гулялі ў двары. Наўрад знайшоўся б чалавек, што наважыўся б зазірнуць у сінячорны твар гэтай жанчыны, які яна імкнецца схаваць пад хусткай ад дапытлівых вачэй."

Век пражыла жанчына доўгі, але калі паспрабаваць скласці ейную біяграфію, дык, напэўна, можна было б толькі засведчыць адзінае: нарадзілася, выйшла замуж, прапісана... А паміж сухімі радкамі схавана цэлая кніга чалавечай трагедыі. Трагедыі жанчыны, маці.

Па маладосці запіў муж. Яна — разам з ім, каб быў побач. Пайшлі дзеці, якія, як толькі падраслі, сталі сабутэльнікамі сваім бацькам. Кватэра ператварылася ў сапраўдны прытон. Усе члены разгульнай сямейкі прайшлі праз ЛПП, калоніі. Каля дваццаці гадоў не даводзілася ім збірацца разам.

З ЛПП яна выйшла невідушчай на адно вока, якое ёй выбіла "сяброўка" па зоне. Кажуць, вока яна прайграла ў карты, як і частку зубоў. Перанесла венерычныя захворванні, у выніку чаго засталася без носа.

... Балюча пра ўсё гэта распавядаць...

Памёр муж — алкаголь таму віною. Пасля такая ж смерць напаткала аднаго з двух сыноў — старэйшага. Жанчына пачынае гнаць самагон, малодшы сын робіцца не болей чым калегам па "сямейным бізнесе". Прыводзіць у дом нявестку, зусім юную дзяўчыну. У маладых нарадзілася дзіця — хлопчык. Няма сэнсу сёння пераказваць змест таго, даўняга артыкула. І асабіста ў нас, калі змяшчалі гэты матэрыял, узнікала занепакоенасць аб далейшым лёсе немаўляці і ягонай мамы. Няўжо гісторыя можа паўтарыцца?

"Маладую нявестку сярод суседзяў і знаёмых ніхто не асуджае, наадварот — паважаюць і... спачуваюць. Ніхто ніколі не бачыў яе неахайнай, тым больш нецвярозай. І дзіця заўсёды дагледжанае і накормленае, хаця і жыве ў такім атачэнні."

Гэта ўсё было амаль год таму. Сёння жанчына з малым здымае кватэру, перайшоў жыць да іх і сын старой. Нібыта шчасце ўсё-ткі зазірнула ў гэтую сям'ю. Але гісторыя пачала набываць зусім іншую афарбоўку.

Расплата для Кацярыны (менавіта так завуць жанчыну, знешнасць якой ніяк не вяжацца з такім мілагучным імем) за ўсе ранейшыя грахі пачынае прыходзіць сёння. Яна засталася адна. У Кацярыны адняліся ногі і яна перасоўваецца па хаце паўзком. Суседзі сцвярджаюць, што старая нагадвае цяпер мерцвяка, у якім яшчэ працягвае цяпліцца агеньчык жыцця. Пакуль...

Звычайна старая на руках дабіраецца да парога кватэры і просіць есці. Суседзі спачуваюць і дапамагаюць, хто чым можа.

Кажуць, дзверы яна ніколі не зачыняе, бо няма ўжо ў гэтым патрэбы. У пакоях сярод бруду распаўзліся прусакі, якія і апанавалі ўвесь пяціпавярховы будынак.

Суседзі і рады былі б адправіць старую ў які інтэрнат для такіх жа нямоглых людзей. Але пры жывым сыне... Толькі ж яны не вінавацяць яго за тое, што адбываецца. Наўрад ці знойдзецца жанчыне месца ў доме для састарэлых. Прычына тая ж самая — яна не адна.

Кацярына плоціць па вялікім рахунку. Чым дапамагчы ёй? Але, хутчэй за ўсё, гэта гісторыя без шчаслівага канца магла б паслужыць добрым урокам іншым. Пакуль не позна. Застаецца толькі параіць, на жаль, банальнае: засцеражыцеся ад паўтарэння чужых памылак.

"... Кажуць, у дагэтуль бязбожнай Кацярыны зараз у куточку з'явіўся невялікі абразок. І толькі аб адным просіць яна ў Госпада, каб той прыняў да сябе яе грэшную душу, дараваўшы грахі. Нічога больш ад жыцця яна не чакае."

**М.Р.**

**P.S.** Тым, хто хацеў бы аказаць дапамогу хворай жанчыне, рэдакцыя можа назваць адрас.

# НАС — МАЛА

вельмі высокая. Зазямляцца занадта нам ніяк нельга, каб пазбегнуць людскога зласлоўя, не апынуцца ў пашчы мамоны, не аддаваць перавагу таму, што можа пашкодзіць душы. Усё гэты вельмі няпроста сярод мірской мітусні, спакушэнняў." ...

Шмат розных вучэнняў ўзнікае на паслугу грамадству. Не заўсёды, нам, грэшным, удаецца адразу разгледзець прыроду паходжання іх, якія сілы ўладараць у кожным асобным выпадку. Мікрабіётыка... Энергія інская і янская... Разбалансоўка іх — значыць хваробы. Так сцвярджаюць прыхільнікі. На іх думку, адной з крыніц найбольш дэфіцытнай, янскай энергіі, з'яўляецца наведванне храма. Ці ж не пасуе ўсім гэты спосаб аздараўлення? Зразумела, што чым больш душ будзе далучацца да храма, тым верагодней здароўе грамадства як духоўнае, так і фізічнае. І перш за ўсё — непакой, клопат аб моладзі. У адной з даўніх гутарак, якія выйшлі потым асобным выданнем, Уладыка Філарэт заўважыў: "Маладыя, а ім жыць і тварыць у XXI стагоддзі, павінны для будучыні падрыхтаваць такі духоўны багаж, які дапаможа нашым нашчадкам быць высакародней, мудрэй за нас". Сёння ўжо можна сцвярджаць пэўны поспех царквы ў рабоце з моладдзю. І паспрыялі поспеху гэтаму сярод іншых ініцыятыў, акцый, мерапрыемстваў нядзельныя царкоўна-прыходскія школы, дзе выкладчыкамі, дарэчы, і а.Ігар, і а.Уладзімір. Трое выпускнікоў залічаны ў Духоўную семінарыю. Многія выпускнікі і навучэнцы прымыкаюць да брацтваў, сястрынстваў, што дзейнічаюць амаль паўсюдна пры праваслаўных храмах.

Вось што гаворыць кіраўнік маладзёжнага брацтва пры царкве Зміцер Рамановіч: — Да гэтага часу наша царква ў вайсковай палатцы выклікае шмат супрацьлеглых меркаванняў, але, дзякуй Богу, дзень пры дні павялічваецца колькасць людзей, якія прыходзяць сюды. Божая Маці заўсёды лічылася заступніцай гаротных. Мы, брацтва, работу павінны будаваць на тым узроўні, каб пад покрывам Нябеснай Заступніцы знаходзілі людзі сабе суцяшэнне. Нам сведчылі былыя хворыя, што ім у выздараўленні дапамагла малітва "Перад іконаю Божае Маці "Усіх тужлівых радасць", якую мы, раздрукаваўшы, раздавалі ў мінулым годзе. Само сабой, што, акрамя малітвы, патрэбна пакаянне, прычасце, а то і сабораванне і, безумоўна, добрыя справы. "Блажэнны міласцівыя, бо яны памілаваны будуць", — гаварыў Збаўца ў Нагорнай пропаведзі. Дарэчы, пры нашай царкве даўняя практыка: імёны тых, хто ахвяруе на будаўніцтва храма, заносяцца ў асобную кнігу, каб маліцца за іх у час агульнай малітвы, калі напаўняецца лагодай Гасподняй душа кожнага ўважлівага ў малітве верніка. За ўсё ў жыцці даводзіцца людзям плаціць, тым больш за грахі разбурэння святынь, грахі, якія ўвесь час нас даганяюць і так моцна б'юць ліхам, хваробамі.

Кіраўнік сястрынства Марына Макашэвіч сказала коратка: "Галоўны клопат нашага сястрынства — патранаж. І нам цяплей на душы, калі пасля нашых візітаў абуджаюцца сэрцы блізкіх пакінутага імі хворага чалавека, калі пачынаюць знаходзіць і сродкі, і час, каб быць больш уважлівымі, пачынаюць разумець каштоўнасць добрых пачуццяў. Не будзем хваліцца, не будзем хваліць — гэта не на карысць хрысціяніну. Спраў многа, толькі нас мала"...

А за акном майго дома інтэлігентная пенсіянерка Ніна Канстанцінаўна, як і штодзень зімой, а чацвёртай гадзіне (каб птушкам было цяплей ночцу) ужо выйшла карміць галубоў...

**Сястра Ларыса**

*Аўтарка папрасіла пералічыць ганарар на будаўніцтва храма ў гонар іконы Божай Маці "Усіх тужлівых радасць".*

АРХІЎ

Якаў ЛЕНСУ

# ТЭАТР РЭЧАЎ, ЦІ МІНУЛАЯ ЭПОХА ПРАЗ РЭЧАВЫ СВЕТ

## РАЗВАГІ ДЫЗАЙНЕРА

*(Праця г. Пачатак у № 9.)*

### ЦІК-ТАК

Гадзіннік — рэч асобая, ён таямніча звязаны з бегам няспыннага часу. Ягоны механізм, што з дакладным рытмам нешта сабе бесперапынна ціха шэпча і ўдзень, і ўначы, здаецца жывым і адушаўлёным.

"Цік-так, цік-так..." — цікаюць на сцяне ходзікі. У такт стуку маятніка мерна дзвігае вачамі — туды-сюды, туды-сюды — намаляваны на гадзінніку кот. Пакой паступова запаўняе змрок, але жвавыя каціныя вочкі ў проразях гадзінніка яшчэ відаць. Малы, што ляжыць у пасцелі, праз сон, які наплывае на яго аднекуль з-пад столі, углядаецца ў мільгаючыя кацiныя вочы. У гэтым мільганні, здаецца, нейкая таямніца. Туды-сюды, туды-сюды — бегаюць вузкія зрэнкі. Спаць-спаць, спаць-спаць, спаць малому трэба. І сон агортвае, уносіць у цудоўную краіну казак. Колькі савецкіх дзяцей засынала пад мірную размову вось такіх старых добрых ходзікаў. Але аднойчы, калі цыферблат з ласкавым коцікам паказваў чатыры гадзіны раніцы, паляцелі на савецкія гарады варожыя бомбы. Раней часу пасталелі тады дзеці, зацчасна зразумелі яны цану жыцця і смерці і часта ўспаміналі гады без вайны і мірнае цiканне на сцяне ходзікаў з ласкавым коцікам. А гадзіннік адлічваў ваенны час — час, які непазбежна набліжаў нашу краіну да Перамогі.

### "ПОБЕДЫ" і "ЗУБРЫ"

Скончылася вайна, названая Вялікай Айчыннай. Гэта была сапраўды доўгачаканая падзея, таму імя Перамогі надавалі тады вуліцам, плошчам, кінатэатрам. Гэтае слаўнае найменне — "Победа" — атрымаў і новы савецкі аўтамабіль, што адразу пасля вайны сышоў з канвеера Горкаўскага аўтазавода. Аўтар распрацоўкі новага аўтамабіля дызайнер У.Самойлаў пачаў работу над праектам яшчэ да вайны. Канчатковa чарцяжы былі гатовы ўжо ў 1943-ім. Але тады, калі ўся прамысловасць была пастаўлена на ваенныя рэйкі, безумоўна, яшчэ нельга было наладзіць масавы выпуск новай цывільнай аўтамашыны. Тады, у 1946-ым з'явіліся першыя "Победы" і на вуліцах беларускіх гарадоў. Трэба сказаць, што машына заслугоўвала свайго імя. Тут можна прызнаць безумоўную перамогу савецкага аўтамабілебудавання, савецкага дызайну таго часу. Форма лімузіна была вельмі арыгінальная, наватарская: крылы машыны былі паглочаны корпусам, фары ўтоплены, зніклі падножкі, машына мела абцякальную форму. Тады за нашай "Победой" і многія замежныя аўтамабілі набылі падобны выгляд.

Хутка імчалі быстраходныя "Победы" па аднаўленых пасля вайны нашых гарадах. А насустрач ім з басавітым ровам, пускаючы клубы сіняга дыму, рухаліся моцныя новыя грузавікі з бліскучай выявай зубра. Гэтая машына была створана амаль адначасова з "Победой" і сышла з канвеера толькі што пабудаванага ў Мінску аўтамабільнага завода ў 1947 годзе. Усёй краіне тады стала вядома кароткая назва "МАЗ" і выразная эмблема ў выглядзе зубра. Грузавікі з беларускай маркай працавалі ва ўсіх кутках Савецкага Саюза. "Пяцітонка", як называлі першую мадэль "МАЗа", мела вельмі выразны вонкавы выгляд. Каробчатая з геаметрычнымі формамі кабіна, прамавугольны абрыс матора, кузаў з актыўна выяўленымі рэбрамі цвёрдасці на металічных бартах, колы з буйным рэльефам пратэктараў на шынах — усё ў форме самазвала "працавала" на стварэнне вобраза моцнай машыны. Безумоўна, удала была зроблена і эмблема бягучага зубра, што мацавалася на радыятары аўтамабіля і сімвалізавала яго сілу. Нездарма нярэдка гэтыя грузавікі называлі ў тыя гады таксама "Зубрамі".

Адраджалася разбураная вайной прамысловасць, будаваліся новыя прадпрыемствы. Краіна, якая ў баі засведчыла моц, імкнулася даведаць, што яна моцная і ў мірным будаўніцтве.

### "ДАВАЙ ЗАКУРИМ, ТОВАРИЩ..."

Але не толькі, гэтак кажучы, "макрарэчавым" светам жылі людзі ў той час. Не менш важным для іх быў і свет малых рэчаў, якія спадарожнічалі ім у штодзённым жыцці.

Шчоўк!.. Вечка з бліскучага металу адкінулася, адкрыўшы роўны рад доўгіх папярос. Жоўтыя ад тытуню пальцы дасталі адну з іх, партсігар, закрываючыся, ізноў гучна шчоўкнуў. І вось ён ляжыць на стале побач з попельніцай. На яго залацістай паверхні рэльефная выява Спаскай вежы Маскоўскага Крамля, ад зоркі на вяршыні якой ва ўсе бакі разыходзіцца пышны пук промняў. Такі партсігар у 30-я, 40-я, 50-я гады вельмі часта можна было бачыць у руках тагачасных курыльшчыкаў. А яшчэ былі партсігары з мішкамі ў сасновым лесе, з паляўнічымі на прывале, з запражкай аленяў, што імчаць нарты, на якіх сядзіць шчаслівы прадстаўнік народаў Поўначы. Гэтыя партсігары не рабіліся з дарагіх металаў, звычайна з алюмінію з дэкаратыўным пакрыццем. Каштавалі яны танна, таму кожны, хто жадаў закурваць "інтэлігентна", мог набыць такую рэч. Безумоўна, гэта не былі аб'екты высокага дызайну, калі строга казаць, дык наогул то быў тандэт. Але часта гэтая немудрагелістая рэч для яе ўладальніка, калі яшчэ служыла дастаткова доўга, рабілася ў поўным сэнсе роднай. Чалавек так прывыкаў да пацямнелай ад часу яе паверхні, пацёртага малюнка на яе вечцы, да стаўшага рытуальным працэсу перакладвання папяросаў з кардоннага пачка ў партсігар, што, калі, бывала, выпадкова губляў гэты свой партсігар, то потым доўга шкадаваў і быў вельмі задаволены, калі ўдавалася купіць такі ж, як і стары.

Так, часам для чалавека не мастацкая якасць рэчы, яе каштоўнасць робіцца крытэрыем ацэнкі. Можа стаць дарагім, цанімым і танны прадмет з вельмі сціплым вонкавым выглядам, нават проста тандэт, калі яго ўладальнік звязвае з ім нейкія сталыя звычкі, калі гэты прадмет навявае яму нейкія асабістыя ўспаміны. Нашы ж людзі ў цяжкія пасляваенныя, ды і ў даваенныя часы не былі спешчаны прыгожымі, высакаякаснымі рэчамі побыту, таму не дзіўна, што нярэдка гэткі немудрагелісты прадмет, як алюмініевы партсігар, рабіўся своеасаблівым талісманам, які суправаджаў іх на працягу многіх гадоў.

### ВАЗА ДЛЯ СУЗІРАННЯ

Але ўсё ж цяга да прыгажосці жыцця, прыгажосці рэчавага свету ў чалавека праяўляецца заўсёды. У пасляваенны ж час жаданне прыгажосці побыту праяўлялася з узмоцненай сілай. З вялікім задавальненнем людзі куплялі тады розныя фарфоравыя статуэткі, дэкаратыўныя шкатулкі, вялікія вазы і маленькія вазачкі. На жаль, наша прамысловасць тады магла прапанаваць няшмат па-сапраўднаму прыгожых дэкаратыўных рэчаў, у асноўным яны мелі даволі сціплыя, калі не сказаць больш рэзка, мастацкія якасці.

... Летняе вячэрняе паветра напаўняе сакавіты гук патэфона. Нізкі жаночы голас пяе па-руску з "замежным" акцэнтам: "Я тэб'е лублу, красную розочку, красную розочку я тэб'е дар'ю". А на стале сапраўды стаіць прыгожы букет руж. Кветкі змяшчаюцца ў вялікай фарфоравай вазе з некалькі нязграбнай пукатай формай. Ваза мае цёмна-сіні колер, а на шарападобным яе баку намаляваны ізноў жа букет руж, амаль гэткі ж, што стаіць у самой вазе. У, гэтыя вазы 50-х гадоў! Колькі ў іх было пышнасці, таннай пампезнасці і... нейкай наіўнасці. Навошта ж маляваць кветкі на вазе, калі іх туды ставяць жывыя! Але і ў гэтым была своеасаблівая логіка. Можна было паставіць вазу так, без кветак, з замілаваннем разглядаць іхнія выявы на фарфоры. А чаму не? Ну ды ладна, з выявамі кветак. А вось на іншых былі партрэты правадыроў. У такую вазу ўжо і наогул кветкі паставіць няёмка, толькі з сур'ёзным выглядам сузіраць. Цікавыя вазы рабілі ў 50-я!..



### "УВАГА, ЗАРАЗ ВЫЛЕЦІЦЬ ПТУШКА!"

Калі пагартаць сямейныя фотаальбомы ў шэрагу нашых дамоў, то можна заўважыць, што аматарскія фатаграфіі з выявамі сцэн жыцця сям'і ў асноўным пачынаюць з'яўляцца ў 50-я гады. Менавіта тады фотаапарат стаў шырока ўваходзіць у кола рэчавага свету савецкіх людзей. Фотакамеру куплялі перад ад'ездам на летні адпачынак, каб зафіксаваць выяву сваёй сям'і на чарнаморскім пляжы, яе набывалі пасля нараджэння дзіцяці, каб здымаць усе перыяды яго сталення ад пялюшак да дзіцячага садка і першага званка ў школе, дарылі фотаапарат і малымшкольнікам, каб прывучаліся да тэхнікі. І, безумоўна ж, апошнім фотакамера прыносіла асаблівую радасць.

Цёплае ліпеньскае сонейка б'е яркімі промнямі ў вочы. З ганка невялікай вясковай хаткі сходзіць хлапчук гадоў 8-10-ці. Апранугы ён відавочна па-гарадскому: на ім белая чыстая кашуля, чорныя кароткія штонікі на падцяжках, на галаве круглая панамка. Цераз плячо ж у малога вісіць у скураным карычневым футарале новенькі фотаапарат. Менавіта фотаапарат — той аб'ект, які прыцягвае ўвагу вясковых хлапчукоў і дзяўчынак, што праз невысокі плот з цікавасцю глядзяць на двор. Гарадскі ж госць дастае апарат з футарала і нацэльваецца шкляным вокам аб'ектыва проста на дзяцей, што выглядаюць з-за плота. У момант растрапаныя галоўкі знікаюць за драўлянай загарадкай. "Гэй, выходзьце, сфатаграфую!" — крычыць маленькі фатограф. Не адразу, але ўсё ж малыя з'яўляюцца ў двары і становяцца ў нястройны радок. "Увага, зараз вылеціць птушка!" — важна паведамляе хлапчук з апаратам. Затвор шчоўкае, навечна выхапіўшы кароткае імгненне з жыцця вясковых хлапчукоў і дзяўчынак.

Здымак зроблены, цяпер усе падыходзяць бліжэй да фатографа і пачынаюць разглядаць яго камеру. "Змена — 2!" — чытае адзін з хлапчукоў надпіс на корпусе апарата. Так, гэта "Змена — 2", першая беларуская фотакамера, выпуск якой у 1957 годзе наладзілі на Мінскім механічным заводзе (цяпер завод імя С.Вавілава). Камера была простая, шкальная, разлічвалася на юных спажыўцоў, менавіта такіх, з якімі мы толькі што пазнаёміліся. Форма фотаапарата была вельмі характэрная для айчынных камер 60-х гадоў — некалькі ўскладненая пластыка, прыступкавая верхняя частка, кампазіцыйна вылучаныя органы кіравання. Корпус апарата вырабляўся з пластмасы чорнага колеру, тубус жа аб'ектыва, круглая вая шкала адлегласці, органы кіравання — з белага паліраванага металу. Гэткі кантраст светлых металічных дэталяў і цёмнай пластмасы — таксама своеасаблівасць нашых фотакамер тых гадоў. Так, "Змена — 2" была простая камера, усе аперацыі пры здымцы ў ёй рабіліся ўручную, ніякай табе аўтаматыкі, не тое што сённяшнія фотаапараты, але здымкі яна рабіла добрыя, шмат у каго, напэўна, яшчэ захаваліся фатаграфіі, зробленыя гэтым невялікім апаратам. На іх мы ў кароткіх штоніках з цацкамі ў руках, а бацькі такія маладыя!

### ПАЛІРАВАНЫ ЦУД

60-я гады для рэчавага свету СССР з'явіліся важным перыядам. Менавіта тады пры фармаванні прадметнага асяроддзя пачалі шырока ўкараняцца метады дызайну. Трэба сказаць, што гэтая падзея адбылася па камандзе зверху, калі на хвалі "касыгінскай" эканамічнай рэформы савецкім урадам было вырашана звярнуць увагу айчыннай прамысловасці на дызайн як сродак падвышэння якасці прадукцыі.

У першую чаргу новыя павевы праявіліся ў сферы вытворчасці мэблі. Замест нязграбных, цяжкіх сталоў і буфетаў сталі з'яўляцца лёгкія столікі на тонкіх ножках і прыгожыя, імпазантныя серванты; слонападобныя канапы і нікеліраваныя металічныя ложкі замяняліся зграбнымі канапкамі і раскладнымі канапкамі-ложкамі. Тады ж з'явіўся і зусім новы для нас прадмет мэблі — мэблевая сценка.

Мэблевая сценка — гэтае слова ў нас у 60 — 70-я гады гучала, як магічнае заклінанне. Мэблевая сценка — гэтая рэч была жаданай марай многіх навасельцаў. Мэблевая сценка — за ёй сталі ночы навылёт у чарзе каля магазіна мэблі. Жаночыя ж імёны, якія насілі гэтыя прадметы мэблі, лашчылі вуха савецкіх пакупнікоў: Марыя, Святлана, Алена...

У гэтыя гады мэблевыя сценкі сталі выпускаць і прадпрыемствы Беларусі. Праектаваннем гэтых рэчаў займалася створанае ў 1963 годзе Мінскае эксперыментальнае канструктарска-тэхналагічнае бюро мэблі. У распрацоўках бюро сценка часта з'яўлялася элементам цэлага мэблевага гарнітура. Тады, у 60-я гады ў абсталяванні інтэр'ера імкнуліся да прастаты і строгасці форм. Менавіта такой была і беларуская мэбля тых часоў: простыя геаметрычныя формы, ясныя прапорцыі, адсутнасць якога-небудзь дэкору. У гэтай прастаце была асаблівая прывабнасць рэчавага свету 60-х гадоў, знак часу барацьбы з "украшательством".

Безумоўна, гэтыя простыя, ясныя рэчавыя формы мелі шмат прывабнага пасля цяжкіх, часам празмерна перагружаных дэкаратыўнымі ўпрыгожаннямі прадметаў мэблі, што існавалі ў Савецкім Саюзе дагэтуль. Нядзіва, што наш спажывец тады з вялікім энтузіязмам сустрэў новыя павевы ў фармаўтварэнні мэблі. Людзі ахвотна адмаўляліся ад старога абсталявання сваіх кватэр. У дварах нашых гарадоў у тыя гады нярэдка можна было бачыць вялікія вогнішчы, складзеныя са старой мэблі. І трэба сказаць, што ў полымі знікалі не толькі аджыўшыя свой век састарэлыя прадметы, але і старажытныя рэчы з адметнымі мастацкімі якасцямі, якія доўгія гады ўпрыгожвалі кватэры нашых дзядоў і прадзедаў. Безумоўна ж, кожная тэндэнцыя ў змене грамадскіх густаў не пазбаўлена пэўных перабольшванняў...

Такім чынам, савецкі спажывец у 60-я гады з радасцю накіраваў свае імкненні да новых простых, геаметрычных форм абсталявання інтэр'ера. Але трэба сказаць, што эйфарыя, якая ўзнялася тады вакол гэткіх спрошчаных фор-маў, была, канечне, празмерная — потым, калі першае захапленне такімі формамі прайшло, стала відавочна, што яны не з'яўляюцца вышэйшым ідэалам прыгажосці, што іх збедненасць, калі яна шырока распаўсюджваецца ў рэчавым асяроддзі, нясе стандарт і нуду. Але расчараванне ў спрошчанай рэчавай форме адбудзецца пазней, пакуль жа яна з радасцю ўспрымаецца паўсюдна.

### "НЁМАНСКАЯ ХВАЛЯ"

60-я гады — таксама час інтэнсіўнага развіцця ў СССР дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якое стала непасрэдна ўваходзіць у штодзённае жыццё. Тады прастата і пэўная стандартызаванасць форм абсталявання жылога інтэр'ера вельмі ўдала ажыўлялася дэкаратыўнымі рэчамі, якія набылі сапраўды высокія мастацкія якасці.

Па пяшчотна-сінім празрыстым шкле вялікага круглага блюда мудрагелістым узорам бяжыць светлая сульфітная нітка. Здаецца, лёгкая хваля ўзрушыла роўную паверхню вады. Гэтая цудоўная рэч зроблена на знакамітым шклозаводзе "Нёман", што ў пасёлку Бярозаўка на Лідчыне. Гэта найстарэйшы на Беларусі завод па вырабу шклопрадукцыі, сваю гісторыю ён вядзе ажно з 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Разбураны ў гады другой сусветнай вайны, ён быў адноўлены ў мірны час. У 60-70-я гады тут склалася сталая школа мастацкага шкла. Вырабы завода "Нёман" у гэты час становяцца своеасаблівым сімвалам мастацкай прамысловасці Беларусі. І трэба сказаць, што яны былі вельмі даступныя для жыхароў рэспублікі. Сталічны магазін "Крышталь" 70-х гадоў — колькі тут было цудоўнага "нёманскага" шкла! Гэта і прыгожыя штофы з каляровага матэрыялу, і дэкараваныя вялікія дзьмутыя кубкі, і крыштальныя вазы з алмазнай разьбой. І бяжыць, бяжыць нястрымная нёманская хваля, тонкі ўзор па сіняй празрыстай паверхні вялікага шкляного блюда...

*(Заканчэнне будзе)*

## ТВОРЧАЯ КУХНЯ




***З НЯДАЎНЯГА ЧАСУ яго пачалі пазнаваць на вуліцы, у грамадскім транспарце. Касуючы квіткі ў тралейбусе адной рукой, другой, бывае, раздае аўтографы, з-за чаго яшчэ пакуль адчувае сябе ніякавата. Ён, які заўсёды ацэньвае сябе самакрытычна, і сёння не можа паверыць, што ягоная творчасць выклікае такую сур'ёзную зацікаўленасць у беларускай аўдыторыі.***

***Яго голас ўсё часцей можна пачуць у радыёэфіры. Эстрадныя песні ў яго выкананні транслююцца па БТ-канале.***

***А між тым яшчэ гадоў сем таму ён і чуць не чуў пра такую краіну, што знаходзіцца ў цэнтры Еўропы і назва якой Беларусь. Хаця не, гэты "цэнтр" многія тады ўспрымалі проста як адзін з памежных рэгіёнаў "вялікай і неабсяжнай", грамадзянам якой ад нараджэння прысвойвалася абстрактная прыналежнасць: "савецкі".***

***Яму 25 гадоў, і ад сваіх равеснікаў на Беларусі адрозніваецца хіба што іншым адценнем скуры. Ведае расейскую мову (ангельскую само сабой). І — не трэба здзіўляцца — спявае па-беларуску. Вядома ж, каб не ўсе гэтыя здольнасці, ён папросту не мог бы стаць новым салістам творчай студыі "Сябры" і тым самым, можна смела сцвярджаць, увайшоў у гісторыю беларускай эстрады.***

У пэўным сэнсе мы з Джымі Нэльсанам калегі. У нас з ім адна "Alma mater" — журфак Белдзяржуніверсітэта. Больш таго — аднакурснікі, жывем у адным інтэрнаце, нават на адным паверсе. Прасцей кажучы, да ўсяго мы яшчэ і суседзі. Так што ўся "зорнасць" Джымі праходзіла на маіх вачах. Калі большасць з нас, наіўна лічачы сябе масцітымі "журналюгамі", бавіла вольны час пад акампанемент разладжанай шасцістрункі, разбаўляючы акорды "беленькай", дык Джымі прападаў днямі ў музычных студыях, аддаючы перавагу канцэртным рэпетыцыям.

І, паверце, адначасова проста і складана пісаць пра чалавека, якога ведаеш на працягу шмат гадоў, свайго калегу, якому, праўда, у жыцці часцей даводзілася даваць інтэрв'ю, чым браць іх самому.

Але ўсё па парадку...

Шэсць гадоў таму Джымі прыехаў на Беларусь вучыцца з далёкай Ліберыі. Праўда, журфак не зусім той факультэт, на які хацелася яму трапіць, ды і сама Беларусь, як яе ўспрымалі на тыя часы, не выклікала асаблівага захаплення. Толькі ж усе расчараванні былі часовымі... Якраз Беларусь і паслужыла трамплінам у рэалізацыі ягоных здольнасцей.

Джымі яшчэ з дзяцінства марыў стаць музыкантам. Але адбыцца як прафесійніку на радзіме, апанаванай грамадзянскай вайной, не было магчыма: на гэтай вайне загінула маці, абарвалася ўсялякая сувязь з дзвюма роднымі сёстрамі, і шэсць гадоў Джымі не быў дома. Ды для вучобы спатрэбілася б фантастычная сума грошай... Ужо на Беларусі ён акрэслівае сваё будучае прызначэнне — вырашае стаць дыск-жакеем на тэлебачанні. Адзін з нямногіх студэнтаў замежнага аддзялення журфака, ён — удзельнік розных творчых тусовак на беларускім канале.

Джымі стварае свой уласны гурт з трох чалавек — "Інтэр". Без яго не абыходзілася ніводная студэнцкая вечарына.

Безумоўна, творчасць Джымі напачатку для многіх з'яўлялася не болей чым экзотыкай. Выйшаўшы з цесных сцэнаў універсітэцкіх актавых залаў, цемнаскуры хлапец пачынае заяўляць пра сябе на буйных канцэртных пляцоўках сталіцы.

Гурт "Інтэр" — удзельнік тэлевізійнага конкурсу "Тэле-бом". І вось менавіта з 1992 года з першага дня знаёмства з вядучым маладзёжнага тэле-шоу Валодзем Станкевічам (ну, ці хіба не памятаеце, той самы заўзяты Дзяніска Караблёў) яны ўжо ні разу не расставаліся. Дарэчы, менавіта Валодзю Джымі і лічыць сваім хросным бацькам на беларускай эстрадзе. Джымі прымушаў шалець прыхільнікаў, запальваючы іх сваім незвычайным тэмпераментам і пластыкай, выступаючы з канцэртамі ў Светлагорску, Мастах, Віцебску... І не паверыце, у Рэчыцы нават хаваўся у грымёрцы ад назойлівых паклонніц свайго таленту.

Невядома, колькі б яшчэ працягвалася "зорнае" аматарства. Невядома, колькі яшчэ спяваў бы Джымі песні на ангельскай мове (дарэчы, напісаныя на ўласныя вершы. Праўда, аранжыроўкай мелодый Джымі пакуль займаюцца іншыя — вытлумачвае недахопам пэўных ведаў), каб не прыехаў аднойчы з чарговых гастроляў з Гародні і не атрымаў незвычайную прапанову. Валодзя падкінуў яму новую ідэю — ну, на тое ён і Дзяніска Караблёў, каб прымушаць увесь свет узрушвацца сваімі, часам неверагоднымі задумамі. Ён паклаў перад Джымі касету з запісамі "Сяброў" і сказаў: "Я хачу, каб ты што-небудзь з гэтага праспяваў." Ці трэба апісваць рэакцыю Джымі? Афрыканскі хлапец, які ледзь валодае рускай мовай, раптам заспявае па-беларуску, ды яшчэ прытанцоўваючы польку...

— Уяўляеш, які "прыкол" атрымаецца?! — не суцяшаўся Валодзя.

— Не, — адмаўляўся Джымі, — "прыколу" не будзе.

Хаця недзе ён і меў рацыю, — справа гэтая і сапраўды аказалася сур'ёзнай. Толькі ж тады, вярнуўшыся дадому ў інтэрнацкі пакой, Джымі некалькі дзён не дакранаўся да апаратуры. І ўсе гэтыя дні сваімі званкамі на вахту інтэрната назаляў Валодзя з "прагай прыколу".

Безумоўна, пра чарговыя "прадзелкі Дзяніса Караблёва" сам кіраўнік "Сяброў" Анатоль Ярмоленка нават і не здагадваўся. Дый адабраў Валодзя для Джымі песню адпаведную — мілагучную "Беларускія дзяўчаты". Ведаў, чым хлопца купіць. На каго, як не на беларускіх прыгажунь штодня заглядвацца даводзіцца.

... Джымі заспяваў па-беларуску. А ў хуткім часе запісаў з дапамогай Валодзі шлягер на невялічкай студыі.

"Прыкол" для хлопца з Ліберыі атрымаўся, калі ў Барысаве пасля чарговых выступленняў "Сяброў" Станкевіч падсунуў нічога не разумеючаму Анатолю Ярмоленку "...дзяўчат" з "акцэнтам".

Праслухаўшы касету, Анатоль толькі і прамовіў:

— Гэта нешта незвычайнае, і я ніколі не чуў, каб цемнаскуры чалавек спяваў, ды яшчэ як, — па-беларуску. Гэта пачатак новай справы.

І чаго ўжо зусім не мог чакаць Джымі, дык таго, што Анатоль запросіць яго на сваю прафесійную студыю на сапраўдныя запісы. Так Джымі з Ліберыі стаў сябрам "Сяброў".

— Мы ж жартавалі, - ужо сёння сцвярджае Джымі. — А атрымалася даволі-такі сур'ёзная справа. І браць мяне, чарнаскурага, у сваю студыю, у калектыў са шматгадовымі традыцыямі, здавалася б, рызыкоўна. Але Анатоль — чэсны чалавек, адзін з нямногіх, які бачыць у іншым перш за ўсё талент. І мне пашанцавала з ім працаваць. Хаця, напэўна, цалкам я яшчэ гэта не ўсведамляю.

Зараз Джымі выступае ў складзе новага гурта, назва якога — "Элегантная кампанія". Кампанія падабралася сапраўды элегантная і інтэрнацыянальная. Джымі не адзін у ёй замежнік, ёсць яшчэ дзяўчына Грэта. Карані яе з Нямеччыны. Зусім нядаўна да "Элегантнай кампаніі" далучыўся і танцавальны шоу-гурт "Дызель". І цяпер хлопцы і дзяўчаты такое выраблююць!.. Асабліва Джымі запомніўся канцэрт, што адбыўся летась у мінскім Доме афіцэраў 25 лістапада. Публіка і без таго была разагрэта, але калі абвясцілі іхні каронны нумар "Беларускія дзяўчаты", у зале сапраўды стала спякотна.

Пакуль у рэпертуары "Элегантнай кампаніі" — адна песня на беларускай мове. Але Анатоль Ярмоленка паабяцаў яго ў хуткім часе папоўніць. Ці тое яшчэ будзе!..

Джымі сцвярджае, што ўсё-ткі ён болей рухаецца на сцэне, чым спявае. Такі ён ужо чалавек. Не можа проста стаяць і махаць рукамі, на што хварэюць многія айчынныя выканаўцы. І "Беларускіх дзяўчат" танцуе штораз па-новаму. Калі на канцэрце высокія госці прысутнічаюць, прадстаўнікі ўрада напрыклад, — вытанцоўвае польку беларускую; а ўвогуле на сцэне звычайна аддае ўсяго сябе на волю экспромта. Тады адпаведна і гледачы рэагуюць. Распачынаюцца сапраўдныя спаборніцтвы, хто каго ператанчыць. Сярод моладзі, безумоўна.

У гэтым годзе Джымі заканчвае журфак. І, па праўдзе кажучы, з будучым дыпломам не дужа добра абстаяць справы, чаго не скажаш аб творчасці. З гэтай нагоды жартуе: "Пішу па радку на тыдзень, але паспею да тэрміну."

Надта надакучвае сваім суседзям па пакоі рэпетыцыямі. Але тыя яго разумеюць. Гэта ж не жартачкі, па некалькі канцэртаў на тыдзень вытрымаць трэба, большасць з якіх — дабрачынныя.

На радзіму Джымі вяртацца не збіраецца па зразумелай прычыне, як і не думае заставацца на Беларусі, хаця год-другі, кажа, папрацаваць згодны.

Пра сапраўдныя свае планы пакуль што замоўчвае. Мо баіцца ссурочыць. Але са мной па-суседску, думаецца, у хуткім часе ўсё-ткі падзеліцца. А значыцца, з чытачамі "Культуры" таксама.

**Міхась РАВУЦКІ**

# ПЕРЫСКОП "КУЛЬТУРЫ"

* * *

Ужо сорак гадоў "аспірын" належыць да словаў, з якіх пачынаюць вучыцца чытаць папуасы Новай Гвінеі. На працягу доўгага часу дактары даволі скептычна ставіліся да "цудадзейнага леку". Аднак 200 даследчыцкіх праектаў, у якіх бралі ўдзел 100 тысяч пацыентаў з усяго свету, далі нечаканыя вынікі. Аспірын не толькі ўлагоджвае боль, але таксама лечыць прастуду, рэўматызм і мігрэнь, прадухіляе апаплексію, інфаркт, белакроўе і гіпертанію. Паводле найноўшых доследаў, ён змяншае рызыку захворвання на рак. Штогод у свеце праглынаецца 40 000 тон аспірына. Калі б гэтыя таблеткі загрузілі ў таварныя вагоны, даўжыня такога цягніка дасягнула б 22 кіламетраў. Галоўны вытворца аспірына — фірма "Баер" зарабляе на ім мільярд марак штогод.

* * *

Сенсацыйныя артыкулы і астранамічная хлусня за кароткі час зрабілі штотыднёвік "Дзі Ное Шпецьяль" прыкметнай з'явай на германскім рынку прэсы. Галоўны рэдактар Петэр Й.Мюлер друкуе не толькі сапраўдныя навіны, але і тыя, што забаўляюць: "У нас можна знайсці інфармацыю, якой не мае болей ніхто. Мы ствараем для людзей цуды, якіх ім так не хапае". У гэтай бульварнай газеце з'яўляюцца фотаздымкі кабет з трэцім вокам, мужчын з 20-сантыметровым языком. На старонках выдаванага ў Амстэрдаме штотыднёвіка Элвіс Прэслі ходзіць у кіно, Джон Ф.Кенэдзі таксама яшчэ жывы, а пачвара з возера Лох-Нэс ужо трапіла ў сталёвую клетку. Рэдакцыя мяркуе, што ніводная гісторыя не з'яўляецца настолькі абсурдэльнай, каб яе нельга было надрукаваць у "Дзі Ное Шпецьяль".

* * *

Напрыканцы 80-х у Японіі панавала мода на тавары найвышэйшай якасці ад слынных еўрапейскіх фірмаў. Вельмі добра прадаваліся вырабы парыжскіх дамоў моды, гадзіннікі "Карцье" і касметыка "Шанель". Аднак эканамічныя праблемы краіны выклікалі падзенне попыту на прэстыжныя маркі тавараў, якія каштуюць, на жаль, вельмі дорага. Новую кан'юнктуру адчулі кіраўнікі сеткі дамоў гандлю "Сейбу": за апошнія два гады ў кожным супермаркеце адкрыўся аддзел "Мудзірушы рыёхін" (добрая якасць без фірмовай маркі). Тавары "Мудзі" паходзяць з Кітая, Ганконга і Тайваня, але гэта не традыцыйнае барахло. Іхняя якасць параўнальная з дарагімі еўрапейскімі вырабамі, але каштуюць яны значна танней. Натхнёныя поспехам, японцы мяркуюць адкрыць сетку "Мудзі" ў Еўропе і Амерыцы.

* * *

Неўзабаве пасля нядаўніх выбараў бундэстага нямецкамоўны варыянт часопіса "Плейбой" апублікаваў вынікі сацыялагічнага доследу эратычнага жыцця электарату некаторых палітычных партый Германіі. Больш за палову рэспандэнтаў, якія галасавалі за хрысціянскіх дэмакратаў, прызналіся, што ўступаюць у сексуальныя адносіны раз на месяц ці нават радзей. Больш за тры чвэрці з іх робіць "гэтае" пры пагашаным святле. Кожны чацвёрты з прыхільнікаў Рэспубліканскай партыі, у праграме якое не бракуе нацыяналістычных лозунгаў, з'яўляецца таксама аматарам секс-тураў у Тайланд, дзе аддаецца цялесным уцехам. І ажно дзве траціны тых, хто галасуе за сацыял-дэмакратаў, лічаць сябе дасканалымі каханкамі.

**Паводле матэрыялаў замежнага друку падрыхтаваў Юрась БАРЫСЕВІЧ**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
**выдаецца з кастрычніка 1991 года**

Заснавальнік —
**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Нам.галоўнага рэдактара — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

**Рэдкалегія:**
**А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, В. ІПАТАВА, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ**

Адказны сакратар — **Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Кампутарная вёрстка — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: **76-94-66**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.
©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6500
Замова 519
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**